УДК 882.6-94
Р 88



*Аўтаркай кнігі пра Станіслава Станкевіч, віленскага беларускага грамадзкага дзеяча міжваеннай пары, стала ягоная дачка — Міраслава Русак. Спадарыня Міраслава сама падхапіла бацькаву ношку й сёньня заслужыла ймя грамадзкага дзеяча. Яна была сярод заснавальнікаў сучасных беларускіх суполак у Вільні: клюбу „Сябрына", Таварыства беларускай культуры, Таварыства беларускай школы. І сёньня яна зьяўляецца іх актыўнай удзельніцай. Наогул жа да выданьня гэтай кнігі спрычынілася ўся сям`я Станкевічаў: дзеці, унукі, праўнукі. Гэтая сям`я праз гады захавала мову, зьберагла гонар – уласны, нацыянальны. Само сабой гэта ўжо ёсьць выдатны ўзор для пераймaньня.*

ISBN 9955-427-05-1

# ЛЯВОНАВА ДОЛЯ

## Успаміны
## пра майго бацьку
## Станіслава Станкевіча





У 1994 годзе я атрымала з Польшчы ліст ад сваячкі Гэлены Пасербскай, якая да выезду ў Польшчу пражывала ў Вільні й часта сустракалася з маім бацькам Станіславам Станкевічам. У лісьце былі словы, каторыя змусілі мяне прызадумацца: «І яшчэ маю адно важнае пытаньне: ці бераце Вы (ты і Ярэк) якісь удзел у беларускім руху? Ці апісалі дзейнасьць Вашага Бацькі? Калі не, дык зрабіце гэта, пакуль памяць дазваляе. Ён гэтага заслугоўвае, бо так шчыра кахаў народныя справы».

29 жніўня 1997 г. ў «Ліме» (35/97) зьявіўся артыкул Янкі Трацяка «Аб якім тут Станкевічу гутарка?», каторы выклікаў у мяне задаваленьне, зьдзіўленьне, удзячнасьць. Артыкул быў пра майго бацьку. Было прыемна, што нарэшце, пасьля дзесяцігодзьдзяў забыцьця, успомнілі пра ягоную дзейнасьць на карысьць беларушчыны. Адначасна была зьдзіўленая, даведаўшыся, што бацькавы вершаваныя зборнічкі «Сьмех ня грэх» і «З майго ваконца» ў бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» прыпісаныя іншаму Станіславу Станкевічу, вядомаму публіцысту, літаратурнаму крытыку.

Усё гэта дало штуршок для напісаньня ўспамінаў пра бацьку. Справа гэтая аднак аказалася нялёгкая. Мае асабістыя ўспаміны былі больш чым сьціплыя: мне не было й 12 гадоў, калі бацьку арыштавалі, майму брату Яраславу — 16-ць. Неабходныя матар'ялы давялося зьбіраць па крупінцы: прыгадваць, што распавядала маці, распытваць бацькавых сяброў і знаёмых, сваякоў, прыпамінаць розныя

жыцьцёвыя факты, вышукваць зьвесткі пра яго ў друку. Вельмі мог бы дапамагчы рукапіс аўтабіяграфічнай паэмы Ст. Станкевіча «Лявонава доля» (падрыхтаваны да друку, але сканфіскаваны падчас арышту). На шчасьце, захаваліся чарнавыя зацемкі паэмы й каля паўтары сотні рукапісных вершаў. Менавіта гэтыя зацемкі сьцёрлі некаторыя белыя плямы ў ягоным жыцьцяпісе .

У 1998 г. мы з братам Яраславам зьвярнуліся ў Архіў КДБ Літвы — ня толькі дзеля азнаямленьня з бацькавай «Справай», але й зь ценем надзеі знайсьці там рукапіс «Лявонавай долі». На жаль, там яго не аказалася. Заставалася задаволіцца ацалелымі ў рукапісным выглядзе фрагмэнтамі паэмы зь першых разьдзелаў «Дзяцінства» і «У Пецярбурзе», каторыя я й выкарыстала ў сваіх успамінах.

Безумоўна, многія старонкі жыцьця Станіслава Станкевіча засталіся чыстымі, але я спадзяюся, што й мае прыгадкі дапамогуць стварыць партрэт «Кнігара» Станіслава Станкевіча —партрэт сьціплага й нястомнага працаўніка на беларускай ніве першай паловы XX ст., якіх было сотні й чыёй працай пераважна й ажыцьцяўлялася тады пачэсная й цяжкая справа Адраджэньня. Спадзяюся гэтаксама разам зь Янкам Трацяком, «што ў новых энцыкляпэдыях Беларусі зьявіцца прозьвішча Станіслава Станкевіча з прыпіскай «беларускі асьветнік, кнігар і паэт», з поўным пералікам ягонай сьціплай літаратурнай творчасьці».

Ёсьць на Ашмяншчыне невялічкая вёсачка з паэтычнаю назваю Арляняты. Адсюль, з роднага гнязда, адзін за адным у пошуках лепшай долі для сябе й свайго народу вылятаў ў сьвет шырокі маладыя арляняткі, каб вярнуцца дадому магутнымі арламі ды праславіць ня толькі сваю вёсачку, але і ўсю Беларусь.

Гэткімі былі вядомыя дзеячы на беларускай ніве кс. Адам Станкевіч, літаратуразнаўца Янка Станкевіч, публіцыст і літаратурны крытак Станіслаў Станкевіч. Я хачу распавесьці пра чацьвертага, таксама Станіслава — майго бацьку.



*Бацька Станіслава*
*Лявон Станкевіч*

Станіслаў Станкевіч нарадзіўся 18 траўня 1886 г. у сям'і малазямельнага селяніна Лявона. Стась быў старэйшым сынам. Акрамя яго было яшчэ пяць братоў і сястра Міхаліна. Усіх братоў клікалі па вясковай звычцы «Лявонамі» (па бацьку). Цяжка жылося «Лявонам», маці часта хварэла, бацька гараваў на вузкай палосцы зямлі:

*Дык гора спаткаці*
*Прыйшлося нямала,*
*Бо ў канцы ўжо маці*
*З ложка не ўставала**

Трэба было займацца хатаю, глядзець за малодшымі дзяцьмі, даглядаць жывёлу. Усе гэтыя абавязкі ляглі на яшчэ кволыя плечы старэйшага — дзевяцігадовага Стася-«Лявона»:

*Хадзіў за вадою,*
*Сячы мусіў дровы,*
*Паліў нат у печы*
*Ды даіў каровы.*
*Ужо з гэтай працай*

---

* Тут і далей цытаты зь неапублікаванай аўтабіяграфічнай паэмы Станіслава Станкевіча «Лявонава доля» — *заўв. М. Р.*

*Ён не раставаўся,*
*Калі па маці*
*Сіратой застаўся.*

Яшчэ цяжэй стала жыць, калі бацька прывёў у дом мачаху. Нарадзіліся яшчэ дзеці, і няматчыным зрабілася цесна ў сваёй хаце:

*І Лявону надаела мачыхі гаворка,*
*А жыцьцё яму, нарэшце, як палын агоркла.*
*Чаплялася без патрэбы, глупствы выдумляла,*
*У яго цяжкой нядолі літасьці ня знала.*
*Вечна злая ды, надуўшысь, штось пад нос мармоча,*
*Як заведзена машына, зраньня аж да ночы.*
*І Лявон ня знаў, ня ведаў, што пачаць рабіці —*
*Ці чакаць чагосьці далей, ціісьці служыці.*

І тады Стась пайшоў «у людзі» — спачатку быў падпаскам, а потым парабкам у багацейшых гаспадароў. Цяжка працуючы дзеля кавалка хлеба, ён рана зразумеў, што не дачакаецца сьветлага дня, застаючыся на вёсцы, і прыйшоў да высновы, што нічога ў жыцьці ня здолее дамагчыся без навукі. Невядома, як і колькі «вясковай адукацыі» атрымаў Стась, аднак сяляне лічылі яго за вельмі адукаванага хлапчука. Некаторыя вясковыя людзі гаварылі нават, што ён мог бы вучыць іхніх дзяцей, калі б быў старэйшы гадамі. Такім чынам, у Пецярбург, куды Стась наважыўся ехаць з марай вывучыцца на ксяндза або на лекара, ён паехаў, маючы ўжо пэўны багаж саматужных ведаў:

*Пайшоў у сьвет ён долі шукаці.*
*Пакінуў кут свой з роднаю нівай.*
*Бяда ды гора мучылі ў хаце,*
*Праз што разстаўся з родным агнівам.*

Гэтак, у 1903 годзе, Станіслаў апынуўся ўПецярбурзе. Выйшаўшы зь цягніка, ён пачуўся ў агромністым горадзе як дробная пяшчынка ў бяскрайняй пустэльні, — разгубленым, маленькім сярод высозных гмахаў, грымлівых трамваяў, шумлівага натоўпу таропкіх, заклапочаных сваімі справамі, людзей.



*У першыя гады ў Пецярбурзе.*

Першыя гады жыцьця Станіслава ў Пецярбурзе былі, мабыць, цяжэйшыя, чым на вёсцы. Трэба было знайсьці куток для жыцьця, працу, каб зарабіць на хлеб, а яшчэ — самае галоўнае — уладкавацца на вучобу. Ня маючы ў горадзе аніякіх знаёмых і безь ніякай матар'яльнай падтрымкі, Станіслаў змушаны быў брацца за кожную працу, самую цяжкую ды «чорную». Даводзілася працаваць ад зары да цямна, у нядзелі й сьвяты. Мары аб лепшай долі, аб здабыцьці навукі разьвеяліся бы туман:

*Рашыў, што долі, пэўна, ня знойдзе,*
*Хоць і ўсенькі белы сьвет пройдзе.*

Самота, нястача, цяжкая праца, безнадзейнасьць, — усё гэта падзейнічала на маральны й фізычны стан юнака. У часы адчаю й дэпрэсіі пачалі наведваць роспачныя думкі, ці варта жыць? Да гарадзкога жыцьця прывыкаў ён зь цяжкасьцю, бо:

*Быў мужык ён просты ад роду,*
*З глухое вёскі, зь цёмнае масы.*
*Ад гэтай масы ён адарваўся*

*Ды з гарадзкой усё ж не зраўнаўся.*

Па некаторым часе, зарабіўшы грошы на дарогу, Станіслаў пастанавіў адведаць сваіх родных, вёску. І там яго чакала яшчэ адно расчараваньне: ягоная каханая Зося, якую ён ведаў зь дзяцінства, сказала яму па прыезьдзе, што праз тыдзень у яе вясельле, што яе прымусілі выйсьці за багацейшага... Зь цяжкім сэрцам Станіслаў вярнуўся ў Пецярбург.

Па вяртаньні ў Пецярбург лёс нечакана ўпершыню ўсьміхнуўся Станіславу: сустрэты ім чалавек, каторы паходзіў з суседняй вёскі й добра ведаў Станіслававых сваякоў, вырашыў дапамагчы яму.* Зь ягонай дапамогай Станіслаў уладкаваўся на працу ў аптэкарскім магазыне. Нейкі час працаваў «спадручным» — хлопчыкам на пасылках. Праца была лягчэйшая за ранейшую, але яна не магла задавальняць хлопца, каторы прагна цягнуўся да ведаў:

*Дамоў па працы бег проста мігам*
*І па вячэры браўся за кнігу.*

Прайшоў нейкі час і гаспадар, заўважаўшы Станіслававу рупнасьць у працы ды здольнасьці да навукі, сам пачаў вучыць яго «аптэкарскай справы». Апроч таго, вечарамі, Станіслаў наведаваў курсы таваразнаўства. Аднак і пасьля курсаў ён да глыбокай ночы не расставаўся з кнігай:

*Лявон за шчасьцем гнацца пакінуў,*
*Адно паволі, хвілінай вольнай,*
*«Каваць» стараўся вельмі лаціну.*

Стараннасьць і сумленнасьць беларускага хлопца ў працы й навуцы заслужыла пашану з боку ягоных гаспадарароў (Спачатку Смаргонскага, пазьней Вадоўс-

---

*Як лічыць Я. Трацяк, магчыма, гэта быў Адам Лісоўскі — *заўв. М. Р.*

кага) й супрацоўнікаў. Станіслаў быў назначаны «прыкашчыкам» — намесьнікам аптэкара. (Захаваліся падараваныя Стасю здымкі, на якіх сфатаграфаваныя гаспадары— знак вялікай павагі да работніка). Праца была прэстыжная, цікавейшая ды лягчэйшая, а заробак быў большы. Цяпер Станіслаў мог высылаць большыя грошы бацьку, памагаць родным: будучы старэйшым, ён заўсёды адчуваў сябе адказным за малодшых братоў і сястру. Зьявілася ўпэўненасьць у будучым:

*І сум Лявона праходзіў бокам,*
*На сьвет глядзець іншым стаў вокам.*

Станіслаў паступова перастаў цурацца людзей. Кола ягоных знаёмых пашырылася. Зь ім з прыемнасьцю кантактавалі й сябравалі. Адныя знаёмыя запрапанавалі яму жыць у іх без узнагароды. Жыў Станіслаў на Васільеўскім востраве. На тагачаснай Стасевай візытоўцы напісаны адрас: *Petrograd W. O. s. p. 46 k. 23. Tel. 414-55.*

Надыйшоў той пэрыяд у жыцьці Станіслава, каторы прадвызначыў увесь ягоны жыцьцёвы шлях. У Пецярбурзе ён пазнаёміўся зь беларускай нацыянальна-сьведамай моладзьдзю, зь беларускім адраджэнскім рухам. Пецярбург тады быў сапраўдным цэнтрам беларускага жыцьця. Там дзейнічала першая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». «Станкевіч уключыўся ў працу й знаходзіўся пад уплывам вядомага і славутага беларускага дзеяча, закладчыка суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», прафэсара Браніслава Эпімаха-Шыпілы», — пісаў Янка Шутовіч.

Станіслаў блізка кантактаваў з сваім стрыечным братам Адамам Станкевічам, які ў той час вучыўся ў Пецярбурскай духоўнай акадэміі, з А. Яцынам, Я. Станкевічам, Л. Хвецькам ды інш. Менавіта ў Пецярбурзе адбылося фармаваньне нацыянальнай сьведамасьці

Аптекарскіе магазины
и косметическая лабораторія
Пров. В. Вадовскій-Петржкевичъ.



Стрыечны брат Станіслава Адам Станкевіч. Пецярбург, 1916 г.



Сябар Станіслава А. Яцына. Пецярбург, 1913 г.





Гаспадары аптэчных магазынаў у Пецярбурзе, у якіх працаваў Станіслаў.

Станіслава, дзякуючы якой ён на ўсё жыцьцё застаўся шчырым беларусам, занепакоеным гаротным лёсам Бацькаўшчыны й паняволенага народу, якому з усіх сілаў імкнуўся дапамагчы:

*Ён не чураўся родам мужыцкім,*
*Сваёй старонкай з племям Крывіцкім*
*І, абудзіўшы новыя ўзгляды,*
*Штодзённы клопат хутка свой кінуў,*
*Стаў захапляцца паважнай справай,*
*Жыць пачаў марай аб роднай Краіне.*
*Душа й сэрца ныла ад болю,*
*Што край ягоны церпіць няволю.*
*Каб не зарос Край дзікай былінай,*
*Удзел стараўся ў кожнай брацць працы*
*І, як трапляла вольна хвіліна,*
*Яе стараўся дарма ня страціць.*

Станіслаў браў рупны ўдзел у культурным і грамадзкім жыцьці беларусаў-пецярбуржцаў. Ён наведваў харавы, танцавальны, драматычны гурткі. Выконваў, відавочна, нейкую ролю ў пастаноўцы «Паўлінкі», бо пазьней шмат і з захапленьнем распавядаў пра яе. Дапамагаў распаўсюджваць газэту «Дзяньніца»:

*Калі пачаў рух болей шырыцца,*
*Пачаў шырыці ўсюды газэту,*
*Якой назоў быў дадзен «Дзяньніца».*
*У ёй зьвінела родная мова —*
*У сьвет нёс шчыра роднае слова.*

У Пецярбурзе засьпела Станіслава Кастрычніцкая рэвалюцыя. Пра гэты пэрыяд ягонага жыцьця мала што вядома, але маці распавядала мне, што ён ледзь не загінуў ад рук бальшавікоў і вярнуўся на Радзіму пасівелы.

У родныя Арляняты Станіслаў Станкевіч вярнуўся у1919 г. Напрацягу аднаго году быў сябрам Гміннай рады, працаваў сакратаром. Аднак ягоная

беларускасьць была не даспадобы польскім уладам, і яго звольнілі. Існавала пагроза арышту. Ратуючыся, Станіслаў выехаў у Вільню.

Ад 1920 г. і да канца жыцьця (ня лічачы высылкі) Станіслаў пражыў у Вільні. Тут ён адразу ўключыўся ў бурлівае й разнастайнае беларускае жыцьцё. Да 1926 г. працаваў у кнігарні Беларускага выдавецкага таварыства «Пагоня» на вул. Завальнай, 7 (цяпер Pilimo). У 1926 г. заснаваў уласную кнігарню на вул. Вастрабрамскай, 2 (цяпер Aušros Vartų), амаль насупраць Віленскай Беларускай Гімназіі. «Узьнікла яна (кнігарня —заўв. М. Р.) у 1926 г., — піша ў сваёй кнізе «Вандроўкі па Вільні» Лявон Луцкевіч, — і мела той самы асартымэнт тавараў, што й кнігарня Выдавецкага таварыства... Станіслаў Станкевіч (якога ў беларускім грамадзтве, каб ня зблытаць з кім іншым, часта дабразычліва называлі «Кнігар») пасутнасьці быў ня проста кнігаром, гаспадаром невялічкай крамы. Гэта быў сапраўдны беларускі асьветнік, шчыры патрыёт, да таго ж паэт».

У кнігарні былі беларускія кнігі, падручнікі, часопісы, каляндары, партрэты беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, — усяго больш за 340 назваў паводле «Каталёгу (кнігасьпісу) беларускіх кніг Кнігарні Ст. Станкевіча», выдадзенаму ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні ў 1937 г. Тут можна было ня толькі набыць патрэбныя кнігі, часопісы й газэты, а й атрымаць даведку пра новыя выданьні, проста пра некага ці пра нешта дазнацца. «Хто з жыхароў былой Заходняй Беларусі, — успамінае Я. Шутовіч, — у перадваенным часе ня ведаў ягонай кнігарні, якая знаходзілася ў Вільні? Хто да яго не заходзіў, каб па прыезьдзе ў Вільню адразу даведацца пра беларускія падручнікі, навуковыя кнігі, пра кнігі зь беларускай літаратуры, даведацца пра беларускае жыцьцё ў Вільні, краі... Кнігарня Станкевіча была адным з асяродкаў прапаганды беларускай культуры, у некаторай



*Пётар Мятла. Вільня, 1924 г.*
*(На адвароце здымку надпіс: «Сябру С. Станкевічу на памяць аб агульнай працы на ніве нацыянальнага адраджэньня роднага краю»).*

ступені, была неафіцыйным даведачным бюро. Кнігар Станкевіч добра ведаў кніжную справу, быў самадзейным энцыкляпэдыстам і бібліяфілам у галіне беларусазнаўства. Беларускія вучоныя, журналісты, пісьменьнікі, працаўнікі навукі, культуры, асьветы карысталіся з цэнных паслугаў Станкевіча ў набыцьці патрэбнай ім літаратуры». Да «Кнігара» заходзілі абмяняцца думкамі, плянамі.

Станіслаў, каторы сам пералжыў шматлікія цяжкасьці на шляху да адукацыі, добра разумеў ейнае значэньне для чалавека й лічыў важным чыньнікам у справе павышэньня нацыянальнай сьведамасьці сялянства, ягонага дабрабыту. «Станіслаў Станкевіч, —згадвала пісьменьніца Зоська Верас, — як загадчык кнігарні быў чалавекам на сваім мейсцы. Энэргічны, рупны, вельмі дбаў аб прапагандзе

беларускай прэсы і літаратуры сярод сялян, якія асабліва ў таргowыя дні — аўторак і пятніцу — масава адведвалі кнігарню».

Рэкляма «Кнігарні Ст. Станкевіча» падавалася ў ва многіх тагачасных газэтах і часопісах. Рэгулярна праводзілася распрадажа літаратуры па зьніжаных коштах, выдаваліся каталёгі, паводле якіх можна было заказаць кнігі ды іншую друкаваную прадукцыю, падпісацца на газэты й часопісы. У згаданым ужо «Каталёгу» 1937 г., напрыклад, прапануюцца гадавікі дзевяці газэтаў і часопісаў, сярод якіх «Kryniсa», «Bielaruskaja Kryniсa», «Шлях Моладзі», «Самапомач», «Калосьсе», «Praleski». Апроч усяго іншага ў кнігарні можна было набыць сшыткі й розныя пісьмовыя прылады, чым заўсёды карысталіся вучні Віленскай Беларускай Гімназіі.

З 1926 г. і ажно да пачатку II Сусьветнай вайны Ст. Станкевіч супольна з Зоськай Верас выдаваў адрыўныя календары, дзякуючы каторым беларускае слова даходзіла ў кожную сялянскую хату. У календарах друкаваліся вершы, жарты, гістарычныя зацемкі, гаспадарчыя ды іншыя парады. Да календароў далучаліся кардонныя «сьценкі» з партрэтамі пісьменьнікаў, паэтаў, абрамаваныя прыгожым нацыянальным арнамэнтам. Вось што спамінае пра супольную з Ст. Станкевічам працу ў справе выданьня адрыўных календароў Зоська Верас:

«Неяк летам 1925 году пайшла я разьлічыцца з «Кнігаром» за прададзеныя ім газэты. Заўважыўшы ягоны незвычайна благі настрой, запыталася, у чым справа. «Ды як не нэрвавацца, — адказаў «Кнігар», — вось-вось надыйдзе канец году і зноў прыдзецца адпраўляць людзей ні з чым... Ужо каторы год сяляне пытаюцца аб беларускі адрыўны каляндар. Ім цікава адарваць лісток ды знайсьці на адвароце нейкую гаспадарчую параду, верш або вясёлы жарт... Такога календара ў нас, як не было, так і німа.

Толькі календары-кніжкі. Вось і ідуць нашыя сяляне купляць або польскія, або расейскія адрыўныя календары. Хіба гэта добра?»

Ягоныя разважаньні здаліся мне зусім справядлівыя й вартыя ўвагі. І тут мне прыйшла ў галаву думка: а мо пагаварыць з нашымі пасламі ды папрасіць у іх пазыкі? Продаж календароў рэч пэўная — грошы вернуцца».

Размовы Зоські Верас з паслямі не атрымалася, і калі яна паведаміла пра гэта Ст. Станкевічу, той запрапанаваў:

«А што калі мы самі будзем выдаваць каляндар? Я дам 50 злотых, на паперу хіба хопіць, а іншыя выдаткі — друк, кнігашытніка, наборшчыкаў, супрацоўнікаў — аплоцім пасьля продажу календара». Добра, будзем працаваць. Уласьнік друкарні й нашыя наборшчыкі адразу згадзіліся працаваць у доўг. Знайшліся й супрацоўнікі: Янка Маразовіч («Янка Маланка», рэдактар гумарыстычнай часапісі «Маланка»), У. Паўлюкоўскі ды інш. Календарыум апрацаваў ці Я. Маразовіч, ці У. Паўлюкоўскі. Вершы, жарты, гістарычныя зацемкі давалі пакрысе ўсе. Парады гаспадарскія, з садоўніцтва, агародніцтва, пчалярства, жаночай гаспадаркі, я ўзяла на сябе. Парады з мэдыцыны далі студэнты-мэдыкі.

Праца йшла спраўна й хутка. Недзе ў пачатку верасьня матар'ял быў гатовы. Праз пару месяцаў каляндар быў надрукаваны й сшыты. І тут — катастрофа... Як мы, здаецца, не былі асьцярожныя, адзін верш (што — ня помню) не прайшоў цэнзуру і ўвесь тыраж сканфіскавалі... Гэта быў каляндар на 1926 год. Тады адзін зь сяброў Гродзенскага Гуртка Беларускай Моладзі, Адольф Зенюк, які скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту й быў стажыстам у Віленскім судзе, узяўся рабіць захады, каб нам каляндар вярнулі. Захады далі добрыя вынікі. Каляндар, увесь тыраж, нам вярнулі з тым, каб тую старонку выкінуць і замяніць новай. Мы так і зрабілі. Надрукаваць старонку — справа невялікая, а вось выняць

з кожнага экзэмпляру й замяніць — заняло шмат часу. Каляндар вельмі спазьніўся, усяго тыражу прадаць не ўдалося... Ледзь удалося аплаціць друк, кнігашытніка ды часткова наборшчыкаў... Але само жыцьцё паказала, што адрыўны каляндар вельмі патрэбны...»

Выдавецкая дзейнасьць «Кнігара» не абмяжоўвалася выданьнем календароў. Ст. Станкевіч перавыдаў паэму «Тарас на Парнасе», выдаў «Беларускі сьпеўнік», «Флірт для ўсіх». У 1926 г. з друку выйшаў ягоны ўласны вершаваны зборнічак «Сьмех ня грэх», а ў 1928-ым — «З майго ваконца». Зборнікі гэтыя былі прыхільна сустрэтыя крытыкай. «У будучыні, — сцьвярджаў, напрыклад, Фр. Грышкевіч, — у асобе Станіслава Станкевіча, калі ён не пашкадуе працы, наша літаратура будзе мець здольнага сатырыка... Пільнаю і строгаю працаю, востраю крытыкаю самога сябе аўтар дойдзе да багатых выпладаў, бо фундамант ёсьць прыроджаны». Свае паэтычныя творы Ст. Станкевіч друкаваў таксама ў «Беларускай Крыніцы», «Авадні», падпісваючыся крыптонімам Ст. Ст. Доўга ён працаваў над аўтабіяграфічнай паэмай «Лявонава доля», якая так і не пабачала сьвету: была сканфіскаваная падчас арышту й зьнішчаная ў КДБ.

Да самай вайны Ст. Станкевіч, апрача сваёй галоўнай працы, займаўся рознабаковай грамадзкай дзейнасьцю, быў «хадэкам» —сябрам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. БХД падтрымоўвалі пераважна беларускія сьвятары, настаўнікі, каталіцкая моладзь. У склад Рады БХД уваходзілі: віцэ-старшыня А. Станкевіч, сакратар А. Стэповіч, нам. сакратара І. Жук, кс. Гадлеўскі, Б. Грабінскі, І. Красоўскі, П. Каруза, Я. Пазьняк. Ст. Станкевіч быў скарбнікам БХД. У 1926 г. быў заснаваны Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры, сябрам якога таксама быў Ст. Станкевіч. БІГК быў адной з кузьняў беларускіх нацыянальных кадраў, праводзіў важную, культурна-асьветніцкую працу сярод шырокіх масаў бел.



*С. Станкевіч (у першым радзе справа) з харыстамі БІГК пад кіраўніцтвам А. Стэповіча (сядзіць, 3-ці зьлева). Вільня. 1930 г.*

насельніцтва: пашыраў беларускі друк, арганізоўваў бібліятэкі, вёў змаганьне за адкрыцьцё беларускіх школак. Ст. Станкевіч сьпяваў у хоры Інстытуту, які вёў А. Стэповіч, удзельнічаў у драматычным гуртку. Быў ён таксама й сябрам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, створанага ў 1919 г., «каб аб'яднаць беларусаў розных поглядаў на нацыянальныя справы» («З Роднае Нівы», 1928). У 1935 г. Ст. Станкевіч уваходзіў і ў Раду Беларускага Каталіцкага Выдавецтва.

Пан Станіслаў Станкевіч уяўляецца ў маіх успамінах яркім і шляхетным чалавекам, які меў галаву да грамадзкай дзейнасьці, літаратурнай, нават гандлёвай, толькі ня меў часу падумаць пра жаніцьбу. І вось, мая маці, купляючы кнігі й канцтавары ў яго кнігарні, зьвярнула ўвагу на паважнага й сымпатычнага гаспадара. А калі даведалася, што ён не жанаты, — давай яго сватаць. Шлюб, як пазьней аказалася, быў вельмі ўдачны, —згадвае дачка «свацьці» Гэлена Пасербская-Вайтовіч. Сапраўды, маці Гэлены запрасіла сваю пляменьніцу Ганну (дзявочае прозьвішча Шынкевіч) прыехаць у Вільню ды пазнаёміцца з Станіславам. Знаёмства хутка адбылося. Закаранелы «халасьцяк» закахаўся ў Ганусю, як ён яе заўсёды называў, і ў хуткім часе ў цесным коле сваякоў і сяброў было згулянае вясельле. Праз год у іх нарадзіўся сын — Яраслаў, чатыры гады пазьней — дачка Міраслава. Гэта была я.

Жылі мы на вуліцы Савіч, 12, блізка ад кнігарні. Перш арэндавалі двухпакаёвую кватэру напрыканцы вузкага цёмнага двара. Праз пару гадоў уласьнік дому — жыд — запрапанаваў бацьку зьняць адну з найлепшых кватэраў у ягоным доме: трохпакаёвую, з вокнамі на сонца, з бальконам. (Сам гаспадар пражываў у такой самай кватэры на другім паверсе). Тут мы пражылі доўгія гады.



*Вясельны здымак Станіслава Станкевіча й Ганны Станкевіч (Шынкевіч). 1928 г.*

Бацька працаваў у кнігарні ад цямна да цямна. У буднія дні бачылі мы яго вечарам. З намі ён быў толькі ў выхадныя дні й на сьвяты. У нядзелю мы ўсёй сям'ёй ішлі ў касьцёл Сьв. Мікалая, дзе кс. Адам служыў імшу. (Падчас нямецкай акупацыі багаслужбы адбываліся ў касьцёле Сьв. Міхала). Пасьля імшы сустракаліся з знаёмымі беларусамі: Найдзюкамі, Багдановічамі, Шутовічамі, Клімовічамі, Грабінскімі ды інш. Памятаю, калі Ул. Чарняўскі быў высьвенчаны на ксяндза, усім дзецям ён раздаваў абразкі. Я свой захавала да сёньняшняга дня. У той дзень брат Яраслаў сфатаграфаваў нас разам з кс. Уладыславам.

Сям'я наша была дружная. Паміж бацькамі было разуменьне, цёплыя душэўныя адносіны. Мы ні разу ня чулі, каб тата з мамай сварыліся, хоць і кажуць: «Няма той хаткі, каб не было звадкі». Наогул, тата быў



*Зьлева направа: М. Шутовіч, Г. Станкевіч, М. Станкевіч, С. Станкевіч, У. Чарняўскі. Вільня, 1945 г.*

зраўнаважаны, паважны й адначасова не без пачуцьця гумару. Быў вельмі патрабавальны да сябе й напорысты. Акуратны. Усе паперы, сшыткі, кнігі мелі сваё мейсца. Г. Пасербская ўспамінае: «Любіў прыносіць радасьць іншым. Заўсёды меў пачуцьцё гумару, жартаваў, лёгка навязваў кантакты зь людзьмі». Мама памагала тату ў кнігарні, пакуль не нарадзіўся Яраслаў. Ад таго часу не працавала. Займалася хатай і ўсімі намі. Да нас часта прыяжджалі сваякі й проста знаёмыя зь вёскі. Мама заўсёды прымала іх на начлег, а першым ейным пытаньнем было, ці галодныя. І зараз жа ставіла гарбату, частавала, чым магла. Зразумела, у раскошы мы ніколі не жылі. Мама ўспамінала нават, што на новую сукенку нялёгка было назьбіраць ёй грошай, бо яны амаль усе йшлі на кнігарскія ды іншыя беларускія справы: купля літаратуры, выданьне кніг і календароў, шматлікія

складкі ў падтрымку розных л. арганізацыяў. Двойчы бацька амаль не збанкрутаваў. «На беларускай справе не забагацееш,» — казала маці.

Пакуль тата быў на працы, нам зь Яраславам дазвалялі пагуляць і пашумець. Калі ён вяртаўся, мы паводзіліся ціха: тата, як зазвычай, нешта чытаў ці пісаў. Наогул, выхоўвалі нас у вялікай павазе да бацькоў і старэйшых. Бацька вялікую ўвагу аддаваў на нашую навуку. Ягоная мара аб вышэйшай адукацыі ня зьдзейсьнілася (сам меў сярэднюю), дык ён пастанавіў даць яе нам, марыў аддаць нас у Віленскую Беларускую Гімназію, а пасьля паслаць у Чэхаславаччыну на далейшую навуку.

Але спачатку я паступіла вучыцца у пачатковую школу пры Беларускай гімназіі. Нашыя пачатковыя клясы знаходзіліся ў тым самым двары, што й ВБГ, толькі ўваход быў іншы й нашыя калі- доры не спалучаліся. Але на перапынках мы спа- тыкалі на панадворку гім- назістаў і глядзелі на іх з пашанаю. Пра нас, малых беларусаў, гімназія так- сама не забывала. Мы заўсёды бралі ўдзел у гімназіяльных сьвятах, нават выступалі на сцэне з сваёй уласнай праграмай. І на лекцыі рэлігіі хадзілі да малодшых гімназістаў. Напачатку й на закан- чэньні школьнага году ўсе разам ішлі ў касьцёл і царкву. Ішлі на ўрачыстасьці ў беларускіх народных строях, пад згукі аркестра.

Вяртаючыся са школы, я не мінала кнігарні. Але не заўсёды мне выпадала падзяліцца з татам сваімі школьнымі навінамі, бо ў кнігарні часта нехта бываў з татавых сяброў, каторых я добра памятаю: Я. Багдановіч, Я. Шутовіч, Б. Грабіньскі, Я. Найдзюк, А. Антановіч, П. Сергіевіч, Ф. Грышкевіч. А. Яцына. Іншых татавых прыяцелеў помню толькі па прозьвішчах: Пецюкевіч, Пазьняк, Гадлеўскі, Паўлюкоўскі, Мятла, Шырма, Каруза. Вялікае сяброўства зьвязвала тату з кс. Адамам. Яны былі ня толькі сваякамі, але й аднадумцамі. У маёй памяці заха- валася сьвяткава- ньне Вялікадня.

Штогод да нас пасьля імшы прыхо дзілі госьці: кс. Адам і Багдановічы, Клімовіч, Шутовіч. Дарослыя размаўлялі пра свае справы, а мы, дзеці, качалі яйкі, гулялі ў «біткі». А яшчэ мне ўрэзалася ў памяць, як кожнага лета беларусы-каталікі зь Віленшчыны ды іншых мясьцінаў Заходняй Беларусі зьяжджаліся ў Вільню, і ўсе разам ішлі ў Кальварыю, каб абыйсьці Крыжовы Шлях Хрыста.Арганізатарамі пілігрымкі былі беларускія ксяндзы, перадусім ксёндз Адам. З гэтых



*Шпацыр па Вільні: Гэлена Янкоўская (стрыечная сястра маці й супрацоўніца кнігарні), Міра й Станіслаў Станкевічы. (У глыбіні вуліцы бачны дом, дзе месьцілася кнігарня). 1938 г.*

паходаў у мяне захавалася некалькі фатаздымкаў і вялікі бацькаў верш «Абход Кальварыі»:

*Месяц чэрвень ветла ўсе, мы што год вітаем,*
*Кожны знае ўжо аб тым із глухое вёскі,*
*Што ў нядзелю першую чэрвеня мы маем*
*Абыйсьці так, як і ўсе, Хрыстовы дарожкі...*

Значнай падзеяй у жыцьці віленскага беларускага грамадзтва быў кожны прыезд сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Як толькі зьвесткі пра ягоны прыезд даходзілі да нас, тата браўся пісаць вершы на ягонае павітаньне.



*Абход Кальварыі. 1936 г.*

Пісаў ён некалькі варыянтаў, чытаў нам, а мы на «сямейнай радзе» рашалі, каторы найлепшы. Потым я завучвала тое павітаньне напамяць. Навучыцца чытаць трэба было гучна, з пачуцьцём ды інтанацыяй, бо канцэрты М. Забэйды-Суміцкага адбываліся ў вялікай залі тэатру на вул. Вялікая Пагулянка (цяпер Basanaviciaus). На жаль, тых вершаў не засталося ні ў маёй памяці, ні на паперы. Памятаю толькі:

*А вось гэтых колькі кветак,*
*Што зіяюць так срабрыста,*
*З садоў нашых і палетак —*
*Ад мяне вось, асабіста!*

Засталіся здымкі М. Забэйды, на адным зь якіх ён напісаў: «Мілай Міры Станкевічанцы на ўспамін супольных выс- тупленьняў. 1944 г.» Мне тады было 10 гадоў і я ўспрымала ягоныя словы вельмі сур'ёзна, бо

маё «выступленьне» перад славутым сьпеваком у поўнай слухачоў тэатральнай залі здавалася мне вялікай і надзвычай адказнай падзеяй. Толькі з гадамі гэты надпіс пачаў выклікаць у мяне ўсьмешку. М. Забэйда заўсёды прасіў мяне перапісаць татавы вершы-павітаньні, што я й рабіла вельмі старанннна ды заносіла іх на вул. Полацкую, дзе знакаміты сьпявак заўсёды затрымліваўся, прыяжджаючы ў наш горад. Аднойчы ён пабываў у нас у гасьцёх, а звычайна «гучныя»



*Сям'я Станкевічаў. 1938 г.*



*На канцэрце Міхася Забэйды-Суміцкага. На сцэне: М. Забэйда, Іра Багдановіч, Аня Антановіч, Генрык Багдановіч, Міра Станкевіч, Ясь Найдзюк. 1944 г.*

прыёмы з нагоды кожнага прыезду Забэйды рабілі Грабінскія.

У 1944 годзе я закончыла пачатковую школу. Рыхтавалася ў гімназію. Гэта ўспрымалася ў хаце як значная падзея ў маім жыцьці, а бацька, які адгукваўся вершаваным радком на ўсе важныя сямейныя ды грамадзкія падзеі, з гэтае аказыі прысьвяціў мне верш: "Хутка ўжо ў гімназію ты пойдзеш..." Ды толькі вучыцца ў ВБГ мне не давялося: нашыя «асвабадзіцелі» «асвабадзілі» нас ад усяго беларускага: ад гімназіі, касьцёла, царквы, музэю, друку...

Фронт набліжаўся да Вільні. Усё бліжэй бухалі снарады, пачасьціліся бамбардыроўкі. Вуліцы й ходнікі былі засланыя асколкамі бітага шкла. Мы разам зь сям'ёй Антановіча хаваліся ў падвале іхнага дому на вул. Савіч, 2. Там мы правялі самыя трывожныя дні баёў за горад. Калі бой сьціхнуў, пабачылі, што горад увесь у вагні, асабліва цэнтар і прывакзальны раён. Адзін са снарадаў трапіў у трохпавярховы будынак, дзе месьцілася кнігарня. Пажар успыхнуў пад дахам і паволі спускаўся долу. Агню ніхто не тушыў. Увечары мы з бацькам падыйшлі да кнігарні. Моўчкі стаялі й глядзелі, як яна дагарае. Бацька запытаўся: «Шкада?» Я кіўнула галавой. У тую хвілю я ўпершыню ўбачыла ў ягоных вачах сьлёзы. Уявіла, як цяжка яму глядзець на гібель плёну сваёй шматгадовай, карплівай працы.

Фронт адкаціўся на захад. Вільня ляжала ў руінах. Пачалося лютае зьнішчэньне ўсяго беларускага й самых беларусаў. Нашая інтэлігенцыя была абвешчаная «нацыяналістамі». Змагацца за беларускасьць сталася небясьпечна — гэта было ўсё роўна, што падпісаць сабе прыгавор.

Сяк-так пачалося жыцьцё пры новай уладзе. Усім

жылося нялёгка ў разбураным горадзе. Мама зь іншымі жанчынамі выяжджала на вёску, каб нешта абмяняць на прадукты. Калі шанцавала, прывозіла дамоў крупы, хлеб, кавалачак сала. Тымчасам шмат нашых знаёмых беларусаў, ведаючы чаго можна спадзявацца ад Саветаў, выехалі ў Польшчу, а не, дык і далей на Захад. Маці таксама прапаноўвала бацьку выехаць, але ён не пагадзіўся зь ёй: ці то верыў у справядлівасьць (зь немцамі ж не супрацоўнічаў, людзям нічога кепскага не рабіў), ці мо баяўся ехаць на чужыну ды пачынаць жыцьцё з нуля. Дый век ягоны быў ужо немалады — бязмала 60 гадоў. Пастанавілі застацца.



*Сям'я Станкевічаў на бальконе сваёй кварэры на вул. Савіч, 12. 1945 г.*

Празь нейкі час бацька атрымаў дазвол на гандлёвую дзейнасьць і зноў адчыніў кнігарню. Беларускіх кніжак там, зразумела, не было: шмат якія беларускія аўтары былі забароненыя, зьяўляліся «ворагамі народу», дый каму былі патрэбныя тыя кнігі, калі ўсё беларускае жыцьцё замёрла? Аднак, хоць у краме пераважна прадаваліся канцылярскія прылады, мы згодна даўняй нашай завядзёнцы звалі яе «кнігарняю».

Яшчэ па нейкім часе кнігарню пачалі наведваць людзі з НКУС. Забіралі бацьку на дзень-другі ды адпускалі. Пра што там вяліся размовы, бацька нам, дзецям, не расказваў. Аднойчы прыйшла да нас маладая жанчына

Юльцэ, вельмі ўстрывожаная, і распавяла, што бачыла, як двое мужчынаў вялі ёй насустрач нашага тату пад канвоем. Тата таксама ўбачыў Юльцю й падаў ёй знак вачыма. Параўнаўшыся зь ёй, ён нешта незаўважна выкінуў з рук — гэта былі ключы ад кнігарні. Маці пасьпяшалася ў кнігарню, каб вынесьці ўсё тое, што магло зашкодзіць бацьку. Напрыклад, у краме была пішучая машынка (нехта прынёс на продаж) зь нямецкім шрыфтам. Аднаго гэтага было дастаткова, каб «прышыць» супрацоўніцтва зь немцамі. Аднак і гэтым разам Станіслаў Станкевіч вярнуўся дахаты.

Жыць пачалі як на бочцы з порахам. Чакалі найгоршага. Пры сустрэчах з знаёмымі бацькі размаўлялі напаўголаса, шапталіся. Але я ўжо разумела: раз шэпчуцца, значыць зноў некага арыштавалі.

І вось надыйшла тая страшная ноч. Здарылася гэта 29 кастрычніка 1945 г. Я прачнулася, калі ўжо па кватэры хадзілі чужыя, незнаёмыя мне мужчыны. Іх было чацьвёра. Яны выцягвалі й перакульвалі шуфляды, ператрасалі ўсе рэчы. Усё апісалі: мэблю, падушкі, коўдры, вопратку, два татавы касьцюмы й паліто — усё ягонае багацьце. З сабой аднак забралі толькі паперы, дакуманты, рукапісы (сярод іх «Лявонаву долю»), старыя фотаальбомы са здымкамі моладзі ў беларускіх строях, актораў з «Паўлінкі», бацькавых сяброў і сябровак зь юначых, пецярбурскіх гадоў, у даўгіх сукнях і фраках, каторыя мне зь дзяцінства вельмі падабаліся. А таму я асабліва шкадавала бацькавыя альбомы (сёньня тыя рэдкія здымкі з жыцьця беларускіх пецярбуржцаў пачатку стагодзьдзя, несумненна, мелі б вялікую гістарычную й навуковую вартасьць). Маці ж асабліва шкадавала рукапіс «Лявонавай долі» — галоўнай паэтычнай працы Ст. Станкевіча.

Ураньні настала хвіліна разьвітаньня. Тата падыйшоў да мяне. Я ціха заплакала. Ён прытуліў мяне, сказаў прыглушана: «Бог-Бацька». Гэтаксама ціха разьвітаўся зь Яркам і мамай. Гэтак мы засталіся бяз бацькі, дзеці «ворага народу».

Маёй выхавацелькай у школе была Раіса Падабед, былая настаўніца гісторыі ў ВБГ. Памятаю, як я падыйшла да яе й папрасілася, каб мяне адпусьціла зь лекцыяў. На пытаньне «чаму?» адказала, што арыштавалі тату. Убачыла жах у ейных вачох і пачула адно толькі «ідзі».

Ад таго дня ў ва мне таксама пасяліўся страх. Я пачала баяцца кожнага стуку ў дзьверы, баялася, калі ў школе называлі маё прозьвішча: а раптам дзеля таго, каб выключыць мяне са школы як дачку «ворага народу»? Страх апанаваў мяне на доўгія гады. Я баялася нават тады, калі ўжо не было чаго баяцца...

Нялёгка нам жылося бяз бацькі. Яраславу было 16, мне — 12. Маму штодня бачылі з заплаканымі вачыма. Усе цяжкасьці ляглі на ейныя жаночыя плечы. Нямала зазналі мы гора, але такі быў лёс многіх у гады сталінскага ліхалецьця.

Найперш мы як маглі стараліся дапамагчы нашаму тату, каторага трымалі пад сьледзтвам у Лукішскай турме. Маці насіла яму перадачы, але да суда перадачаў не прыймалі. Кнігарню яна перааформіла на сваё імя, пачала там працаваць — гэта дало нам магчымасьць нейкі час пратрымацца, хоць падаткі былі вялікія. І падаткі тыя штомесяц павялічваліся. Новыя ўлады імкнуліся зьліквідаваць прыватны сэктар ды так, каб уласьнікі «дабраахвотна» адмовіліся ад уласнасьці. Кнігарню давялося зачыніць. Вось тады й распачалася сапраўдная «барацьба за йснаваньне».

Маці, ня маючы спэцыяльнасьці, не магла ўлад-

каваццца на добрую працу, таму яна «перабівалася», як магла: шыла, вязала. Часам зь Беларусі да нас прыяжджалі працаўнікі музэяў, архіваў ды прыватныя асобы купляць беларускія кнігі, якіх у нас шмат яшчэ заставалася з бацькавай бібліятэкі й кнігарні. Мама, каб неяк выжыць, прадавала іх за бясцэнак. (У Літве ж імі ніхто не цікавіўся). А то часам прыедзе які знаёмы зь вёскі, папросіцца на начлег, кавалак сала прывязе... Вось так і жылі.

Аднойчы нехта папярэдзіў маму, што на станцыі стаяць эшалоны з вагонамі для жывёлы — «цялятнікі», у якіх будуць вывозіць усіх «неблагонадёжных», хто патрапіць у рукі НКУС. У тую ноч, сапраўды, у горадзе быў вялікі «хапун». Але мы дома не начавалі. Хто ведае, можа гэта і ўратавала нас тады ад вывазкі ў Сыбір.

У экстрэмальнай сытуацыі, у цяжкіх жыцьцёвых абставінах раптам праявіўся моцны характар нашай маці. Першапачатковая ейная разгубленасьць мінулася, яна вельмі цьвяроза пачала думаць, хутка прыймаць рашэньні. Ейнай бадзёрасьці, вытрымцы й кемлівасьці ў крытычныя хвіліны можна было б пазайздросьціць. Нават у найгоршыя хвілі жыцьця яе ніколі не пакідала надзея. Прытым яна была вельмі рэлігійная, верыла, што Бог ёй паможа пераадолець усе выпрабаваньні, верыла, што бацька вернецца, што нечалавечай савецкай уладзе прыйдзе канец. Яна нам казала: «Раманавы вунь колькі вякоў панавалі, ды дзе яны цяпер? І гэтым злыдням будзе канец!» У нас зь Яркам такой веры не было.

Прывяду прыклад, каторы лепш за ўсялякія эпітэты характэрызуе сьмеласьць і рашучасьць нашай мамы. У ноч арышту энкавэдэшнікі не пасьпеліператрусіць усю кватэру: пакой, дзе знаходзілася бацькава бібліятэка, яны заплямбавалі. Там былі й кнігі не заўсёды «ідэйна вытрыманыя». Мама пастанавіла, што трэба абавязкова пранікнуць у заплямбаваны пакой ды вынесьці кнігі, што

маглі «скампраметаваць» бацьку.

Жылі мы ў кватэры з высокай стольлю. Над дзьвярыма ў бібліятэку была вялікая шкляная рама. Рашылі, што Яраслаў залезе ў пакой ды вынесе «небясьпечныя» кнігі. Было гэта вельмі рызыкоўна: ніхто з нас ня мог ведаць, калі нашыя «дабрадзеі» прыйдуць на рэвізію. Перагледзець жа ўсе кнігі было ня проста, гэта заняло б шмат часу. Аднак маці адважылася на гэты крок: «небясьпечныя» кнігі былі вынесеныя, рама была ўстаўленая на ранейшае мейсца...

Апісаныя падчасператрусу рэчы маці таксама «спарадкавала». Напрыклад, калі былі апісаныя тры падушкі, мама з аднэй вялікай рабіла тры маленькія, а дзьве перахоўвала ў знаёмых. Новыя рэчы замяняла старымі.

Згадваю, як аднойчы падчас працы ў краме да мамы завітаў энкавэдэшнік, загадаў зачыніць кнігарню й аддаць яму ключы. Няйнакш — чакай рэвізіі. І тут маці пайшла на вялікую рызыку: прывяла сьлесара, сказаўшы, што згубіла ключ. На мейсца старога замка павесілі новы, вельмі падобны. Яшчэ на золку яна наняла фурманку, наладавала яе таварам ды вывезла за горад да сваёй цёткі. Аднак, што будзе, калі прыйдуць энкавэдэшнікі з старым ключам? У напружанасьці й трывозе мы жылі некалькі дзён. Нарэшце прыйшоў той самы энкавэдэшнік і павёў маці да кнігарні. Пазьней яна расказвала нам, што праз усю дарогу малілася, трымаючы ў руцэ новы ключ. Перад дзьвярыма мамін спадарожнік падаў ключ і коратка загадаў: «Открывайте!»... Цяжка ўявіць наступствы, калі б супрацоўнік НКУС заўважыў, як маці падмяніла стары ключ на новы.

Пасьля школы я заўсёды забягала да маці ў кнігарню, каб пераканацца, што яе не забралі, бо надта часта заглядваў да яе судовы выканаўца Юргіс Татарайціс, каторы доўга не пераставаў «цікавіцца» нашай сям'ёй. Трэба сказаць, што «працаваў» ён зусім на іначшы капыл,

чым маўклівыя, няўсьмешлівыя ды рэзкія энкавэдэшнікі. Размаўляў з усімі намі спакойна, далікатна, культурна: відавочна, хацеў увайсьці ў давер. Павёў мяне нават аднойчы пагуляць з сваёй дачкой.

Татарайціс прыходзіў у краму з тоўстай тэчкай. Маці цікавілася ейным зьмесьцівам: мо там якія дакуманты пра бацьку? Яна хацела даведацца, у чым яго абвінавацілі, што яму «прышылі». Тут была поўная невядомасьць, бо сьледзтва цягнулася 6 месяцаў, справу адсылалі з суда на дасьледаваньне. І вось маці, спадзеючыся знайсьці ў тэчцы нашага «апекуна» колечы-якія зьвесткі пра бацьку, неяк запрасіла Татарайціса ў госьці. Той з ахвотай згадзіўся. Маці загадзя купіла пляшку гарэлкі з гэтай аказіі, згатавала нейкі пачастунак. Праз увесь час бяседы яна ажыўлена размаўляла з госьцем, не забывала падліваць яму ў чарку. Урэшце так «начаставала» яго, што той заснуў проста пры стале. Маці зь Яраславам перацягнулі заснулага на канапу ды ўзяліся за «працу»: пераглядзелі ўсё, што было ў тэчцы, але... ніякіх зьвестак пра бацьку там не аказалася. І хоць у тэчцы нічога важнага не было, і маці толькі патраціліся на пачастунак, мы яшчэ доўга сьмяяліся, згадваючы, як маці абдурыла «сэксота».

Суд над нашым бацькам адбыўся 14 траўня 1945 г. Станіслава Станкевіча судзілі па артыкуле 58-I «а» на 10 гадоў высылкі ды 5 гадоў паражэньня ў правох з канфіскацыяй маёмасьці. У ліпені атрымалі першы ліст — трохкутнік са зваротным адрасам: «Молотовская обл., Соликамский р-н., пос. Боровск, п/я 33». Адразу кінуліся да мапы: «На гэты бок Уралу! Як добра, што ня Поўнач!» У лісьце бацька пісаў, што ў яго ўсё нармальна, працуе на сьвежым паветры, столярам, чуецца лепш. Магчыма, што пасьля 6-месячнага прабываньня ў задушлівай, вільготнай камэры паветра,

сапраўды, было яму добрым лекам.

Ад той пары лісты ад бацькі прыходзілі стала, аднак пра ягонае лягернае жыцьцё-быцьцё можна было толькі здагадвацца. Маці адпраўляла яму дзьве пасылкі на год. Ня ведаю, ці дазвалялася пасылаць больш, аднак і тыя дзьве нялёгка нам было сабраць. І бацька, ведаючы, як цяжка нам жывецца, заўсёды пісаў, каб мы нічога яму, апроч лістоў, не дасылалі. Прытым у лягеры пасылкай даводзілася «дзяліцца» з «крымінальнікамі», а не дык і цалкам усё ім аддаваць. Маці, сапраўды, было цяжка ўтрымоўваць нас. Становішча нашае палепшылася б, каб мы зь Яраславам пайшлі працаваць. Але маці за ўсялякую цану хацела, каб мы спраўдзілі бацькаву мару, вучыліся далей. Навука ў той час у сярэдняй школе была платная. Маці ледзьве вязала канцы з канцамі.

Гэтак міналі тыдні й месяцы, а жыцьцё па-ранейшаму заставалася трывожным. Аднойчы, калі я зьбіралася ў школу, нехта пастукаўся ў дзьверы, увайшоў у хату й запытаўся, ці маці адна дома. Яна адказала, што адна. Пакойчык, дзе я знаходзілася, быў адгароджаны шафаю й шырмаю, таму я добра чула размову незнаёмага з маці. Праз увесь час допыту я, баючыся варухнуцца, сядзела як спаралiжаваная. Допыт доўжыўся гадзіны дзьве, гэтым разам сьледчы цікавіўся мамінай сястрой і шваграм, каторыя вярнуліся з Казахстану, а жылі ў Вішневе.

Кватэра нашая была пад сталым наглядам дворніка: вокны ягонай кватэры былі насупраць нашай лесьвіцы — выдатны назіральны пункт. Што ён шпігуе за намі, мы вельмі хутка пераканаліся. Напрыклад, калі хто-небудзь уваходзіў на нашую лесьвіцу, праз некалькі хвілінаў зьяўляўся й дворнік, нібыта зь нейкай пільнай справай ці з пытаньнем. Вочы ягоныя пры гэтым так і бегалі па хаце. З тае прычыны маці сарвала кантакты з многімі знаёмымі, каб не зашкодзіць ані ім, ані сабе. Блізкія кантакты мы падтрымлівалі з Антановічамі, Марысяй Шутовіч,

Багдановічамі. У Антановічаў мы бывалі на сьвяты (Вялікдзень, Каляды). У іх сустракаліся з П. Сергіевічам. (Сергіевіч і маці былі хроснымі сына Антановіча, Яраслава).

Маці ўвесь час перасьцерагала нас, каб мы не заводзілі сяброўства з «чужымі» людзьмі, каб не гаварылі лішняга. Мы разумелі яе і, напрыклад, у школе ніхто ня ведаў, што наш бацька асуджаны й высланы. Казалі, што памёр. Праўда, аднойчы, нягледзячы на матчыны перасьцярогі, мне давялося падзяліцца сваёй бядой зь сяброўкаю па школе. Нейк я выпрасіла ў мамы бацькава «вечнае пяро», хоць мама не хацела мне яго даваць (берагла, як памятку па бацьку). Я запэўніла яе, што не згублю пяро, і, на няшчасьце, згубіла. Калі заўважыла прапажу, мне сталася так цяжка, я так перажывала, што ня вытрымала й расказала пра сваю бяду школьнай сяброўцы Рыце, якая ў той момант была са мной. Расказала праўду й пра бацьку, каб яна зразумела, чаму гэтае пяро такое мне дарагое. Пасьля, калі мы з Рытай пасварыліся — як тое часта здараецца паміж 14-гадовымі дзяўчаткамі — мая «сяброўка» расказала праўду пра майго бацьку яшчэ некаму з нашай клясы...

Да гонару маіх аднаклясьнікаў, ніхто зь іх ні адным словам не пакрыўдзіў мяне.

Ішоў час. Мы ўжо ўступілі ў свае «наццаць» гадоў, калі так хочацца быць зь сябрамі, калі так вабяць вечарыны, танцы. Маці часам нязлосна абуралася: «Бацька церпіць за Беларусь, а ім дрындушкі ў галаве!». У маці ўсьцяж былі тыя самыя клопаты: накарміць нас, апрануць, выслаць пасылку бацьку. Старыя рэчы перашываліся й рабіліся «новымі». Безумоўна, далёка нам было да іншых, але не магу сказаць, што былі мы нешчасьлівыя з той нагоды, што не было ў нас

прызваітай вопраткі ці дастаткова ежы.

У тыя гады было модна прагульвацца па прашпэкце Леніна (цяпер Gedimino). На адным баку прашпэкта шпацыравала моладзь, па другім — старэйшыя. У мяне была адна патаемная мара; прагуляцца па прашпэкце з бацькам, каб усе бачылі...

У 1949 г. Яраслаў скончыў сярэднюю школу. Безумоўна, ён мог ісьці працаваць і жыцьцёвыя варункі нашыя палепшыліся б. Аднак маці старалася зрабіць усё магчымае, каб ён атрымаў вышэйшую адукацыю. Але як было паступіць у ВНУ сыну «ворага народу»? Для паступленьня патрэбная была даведка з райвыканкама аб сацыяльным становішчы сям'і. А якую даведку мог атрымаць Яраслаў? Што бацька асуджаны па сумнавядомаму артыкулу 58-І «а»? З такой даведкай лішне было марыць пра навуку. І зноў маці пачала «дзейнічаць». Яна выпісала Яраслава з нашай кватэры й прыпісала да «хворай цёткі» (В. Клімовіч) «апекуном» у тым гарадзкім раёне, дзе ў райвыканкаме працаваў матчын знаёмы. Там Яраслаў (за ўзнагароду) атрымаў патрэбную даведку, маўляў, паходзіць з рабочых, бацька памёр у 1939 г. і г. д. Здаў іспыты, стаў студэнтам хімічнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Будучы студэнтам III курсу, пачаў працаваць настаўнікам у сярэдняй школе. Несумненна, упэўненасьці, што ён скончыць унівэрсытэт, у яго не было: выпадкаў, калі дазнаваліся пра бацькоў, «ворагаў народу», ды выганялі з вучэльняў, было шмат.

Скора і я закончыла школу. Марыла пра мэдыцыну, паважна цікавілася ёю. Аднак тая самая праблема паўстала й перада мной, ды яшчэ больш сур'ёзна. Пры маім паступленьні магло адкрыцца тое, што некалькі гадоў удавалася хаваць Яраславу. Ня толькі б я не паступіла, але й брата маглі выкінуць з унівэрсытэту. Пастанавілі на «сямейнай радзе», што я ні ў якім разе не павінная паступаць ва ўнівэрсытэт. Дапамог мне выпадак, а мо-

жа й Бог. Сустрэла я неяк на вуліцы аднаклясьніцу, разгаварыліся. Аднаклясьніца паведаміла, што будзе паступаць на ангельскую мову ў Пэдагагічны інстытут і ідзе па даведку. Пайшла і я разам зь ёй у райвыканкам, каб глянуць, як тое будзе. Сяброўка зайшла ў габінэт і вельмі хутка выйшла з даведкай: у яе запыталі толькі прозьвішча, зь якой сям'і паходзіць, дзе бацькі, запоўнілі патрэбную форму ды паставілі пячатку й подпіс, — і ўсё тут! Ня доўга думаючы, і я зайшла ў габінэт... Праз пяць хвілінаў, шчасьлівая, ішла з даведкай дамоў.



*Жонка й дзеці «ворага народу»: Ганна, Міраслава й Яраслаў Станкевічы. 1947 г.*

Я здала іспыты ў Пэдагагічны інстытут (ва ўнівэрсытэт паступаць не адва жылася, бо там з большай верагоднасьцю маглі спраўдзіць маю «даведку») на факультэт замежных моваў. Зь вялікім хваляваньнем прайшла мандатную камісію, на якой прасейвалі студэнтаў, як праз рэшата:

— Дзе бацька?

— Памёр.

— Калі?

— У 1939 годзе.

— Ад чаго?

На гэтае пытаньне я ня мела загадзя падрыхтаванага адказу. Але тут жа ўпэўнена адказала:

— Ад запаленьня лёгкіх.

— Кім працаваў?

— Грушчыкам.

Напрыканцы жніўня атрымала паведамленьне, што зьяўляюся студэнткай ВДПІ. Гэта быў самы шчасьлівы за апошнія 7 гадоў дзень і тое «паведамленьне» я й сёньня перахоўваю з большаю пашанаю, чым нават дыплём. Аднак да самага сканчэньня інстытуту ў мяне ніколі не было ўпэўненасьць, што закончу навуку. Пасьля І-га курсу, калі пачаліся заняткі, не далічыліся мы многіх з нашых таварышаў: вывезьлі... Таму, напрыклад, калі мяне выклікалі ў дэканат, я йшла туды, спадзеючыся горшага — выключэньня зь інстытуту. Ліха, аднак, абмінула мяне.

Па старой памяці бываючы ў Вільні, заўсёды адведваў нас кс. У. Чарняўскі. Некалькі разоў даваў ён мне грошы, каб я купіла сукенку. А прыехаўшы зноў, пытаўся, ці купіла? Ведаў, што ў нашых варунках мы проста маглі «праесьці» тыя грошы. Зь вялікай удзячнасьцю спамінаю кс. Уладыслава й ягоную дапамогу ў цяжкі час.

Памёр Сталін. Людзі пачалі жыць надзеяй на вяртаньне з ГУЛАГаў родных і блізкіх. 9 гадоў мінула, як разлучылі нас з бацькам. Пайшоў апошні, дзясяты, год ягонай высылкі.

Аднойчы, позьнім вечарам, нехта пазваніў у дзьверы. Я пайшла адчыняць. На парозе стаяў высокі, худы, шэры, стары чалавек. На хвіліну я акамянела. Больш сэрцам адчула, чым пазнала свайго бацьку. Апамяталася тады, калі ўсе зьбегліся й пачалі яго абдымаць. Цяжка было

пазнаць у гэтым старым, змучаным, схудалым — скура ды косьці — чалавеку колішняга бадзёрага, зь вялікім пачуцьцём гумару, саліднага мужчыну.

Думаецца, нялёгка яму адразу было прывыкаць да новага жыцьця на волі. Зьмяніўся ня толькі ён, зьмяніліся мы, зьмяніўся час. Пакінуў ён нас дзецьмі, а вярнуўшыся, знайшоў студэнтку III курсу й жанатага ўжо Яраслава. «Галавой» у хаце ўсе 9 гадоў была маці.

Пра лягернае жыцьцё бацька расказваў мала (даваў падпіску), дый толькі маці, а мы ўжо даведваліся нешта ад яе: голад, холад, зьдзекі, крадзяжы, сум па родных і блізкіх, і цяпельца надзеі ў моры безнадзейнасьці, каторае толькі й памагло выжыць. Яшчэ калі ён быў у турме на Лукішках, яму падчас допытаў зламалі рэбры. Зрасьліся яны, як давялося, цяпер значна вытыркаліся на грудзёх. У лягеры, пасьля Лукішкаў, сталася крыху лягчэй: скончыліся катаваньні. Праз старасьць і стан здароўя на цяжкія працы бацьку не ганялі, працаваў нейкі час на кухні, дык хоць баланды з гнілой рыбы ды бульбянога лушпіньня было ўдосталь. Знаходзіў час і на вершы. У лягеры Станкевіча чамусьці празвалі «Ксяндзом», мусіць, не праз празьмерную рэлі-



*Па вяртаньні з ГУЛАГу. 1955 г.*

гійнасьць, а хутчэй праз зьнешні выгляд ды прыродную інтэлегентнасьць. Зь лягеру бацька прывёз намаляваны ссыльным мастаком партрэт, дзе ён сядзіць пры стале й нешта піша.


*Роздум падчас адпачынку. 1957 г.*

Вярнуўшыся, Станіслаў Станкевіч ня меў права жыць у Вільні. Прыпісалі яго ў Лянтварысе да знаёмых, хоць жыў ён, зразумела, з намі. 6 траўня 1957 году я атрымала павестку зьявіцца ў МУС. Тады я была на 8-ым месяцы цяжарнасьці, дык пайшла туды без асаблівага страху. Візыта была кароткая: мне ўручылі даведку, у якой гаварылася: «Приговор Военного трибунала войск Литовской ССР от 14 мая 1946 года в отношении Станкевича отменён и дело прекращено». Даведку, датаваную 15 лістападам 1956 г. я атрымала на паўгады пазьней!

Пасьля атрыманьня гэтай даведкі маральна бацька пачуўся значна лепш. Ён любіў успамінаць свае маладыя гады, асабліва пецярбурскія. Часта распавядаў пра гаспадароў аптэкі, пра пастаноўку «Паўлінкі». Тады ў ягоных вачах цепліўся малады агеньчык.

А тымчасам нашае матар'яльнае становішча было складанае. Бацькі пэнсіі не атрымоўвалі: маці не ставала выпрацаваных гадоў, а бацьку працу ў прыватнай

кнігарні да працоўнага стажу не залічалі. Нашыя зь Яраславам настаўніцкія зарплаты былі невысокія.

Турэмная камэра, катаваньні, голад, хваробы падкасілі здароўе Станіслава Станкевіча. Апошнія тры гады жыцьця ён не ўставаў з ложку. Маці апекавалася ім да апошняга дня. 3 лютага 1964 году Станіслава Станкевіча ня стала. Пахавалі яго на Новых Росах. На магіле паставілі сьціплы помнік, зьмест надпісу на якім запрапанавалі Я. Багдановіч і Я. Шутовіч: «Станіслаў Станкевіч. 1886-1964. Беларускі асьветнік. Душы яго неба».

Калі рыхтавалася да выданьня «Беларуская энцыклапедыя», прыйшоў да мяне Я. Багдановіч ды пачаў пераконваць, што трэба падаць туды зьвесткі пра бацьку. Я запярэчыла: наўрад ці каго з прозьвішчам Станкевіч уключаць у тую энцыкляпэдыю. Багдановіч, аднак, верыў, што зможа ажыцьцявіць свой намер... Па некаторым часе прынёс назад бацькавы здымкі ды прызнаўся ў сваёй наіўнасьці.

Адведваючы на Дзяды бацькаву магілу, мы заўсёды знаходзілі там кветкі некага, хто адведваў яе раней за нас. Мы ня ведалі, чые гэта кветкі, але пасьля сьмерці Я. Багдановіча кветак ня стала.

У 1998 г. мы з братам Яраславам зьвярнуліся ў Архіў КДБ ў Вільні, просячы дазволу пазнаёміцца з судовай справай Станіслава Станкевіча, з кволай надзеяй знайсьці сканфіскаваны рукапіс «Лявонавай долі». Пасьля некаторых фармальнасьцяў нам выдалі «Справу N 528» у дзьвёх тэчках. Нумар не вялікі, калі браць пад увагу, што ў Архіве КДБ ЛССР перахоўваецца 47819 справаў! Напрыклад, справа на Я. Багдановіча праходзіць пад N 19129. Нумар бацькавай справы сьведчыў, што Станкевіч патрапіў у

кіпцюры НКУС тады, калі «паляваньне» на віленскую беларускую інтэлігенцую толькі распачыналася.

Дрыготкімі рукамі перагортвалі мы з братам пажоўклыя ад часу карткі — пратаколы допытаў. Допыты пачыналіся позна вечарам і доўжыліся 5-6 гадзінаў. Пераважна на кожным зь іх задавалася адно, збольшага — два пытаньні. У чым жа вінавацілі Ст. Станкевіча? Нягледзячы на тое, што ў справе мелася даведка пра Беларускі Нацыянальны Камітэт і ягонае кіраўніцтва, яго абвінавачвалі ў тым, што ён быў старшынёй (!) Камітэту. Пратаколы допыту кароткія, адказы падсьледзтвеннага таксама лякнічныя: «Не», «Ня быў», «Ня ведаю». Можна сабе ўявіць, як адбываліся допыты, калі яны цягнуліся 5-6 гадзінаў, а задавалася толькі адно (!) пытаньне... Нават калі б пыталі такі працяглы час толькі «па-добраму», дык і тое можна было б звар'яцець. А «там» нічога не рабілася «па-добраму».

Трэба сказаць, што ўся «Справа N 528» шытая белымі ніткамі. Станіслава Станкевіча вінавацілі паводле паказаньняў нейкага Івана Юрэвіча, таксама сябра БНК. Паводле пратаколаў Юрэвіч заявіў, што, беручы неяк пропуск у Камітэце дзеля паездкі ў Баранавіцкую вобласьць па жонку й рэчы, ён нібыта чуў, як Ст. Станкевіч, якога яму рэкамэндавалі як старшыню Камітэта, «выступал на собрании членов «БНК» с призывом вербовать белорусов для вступления в немецкую армию». Справа Юрэвіча й Станкевіча вялася разам. Зьдзіўляе аднак тое, што першыя пратаколы, у якіх Юрэвіч паказаў на Станкевіча, адсутнічаюць. Гэта наводзіць на думку, што Юрэвіча, каторы фактычна ня ведаў Станкевіча, энкавэдэшнікі прымусілі паўтарыць загадзя падрыхтаваную імі «вэрсію».

Два разы бацьку арганізоўвалі вочную стаўку зь Юрэвічам. Бацька цьвердзіў адно: «Ня ведаю», «Першы раз бачу», «Старшынёй Камітэту ня быў». Допыты вяліся

амаль тры месяцы, а «выбіць» з падсьледзтвеннага пажаданы адказ не ўдалося. На пытаньні «Мэты БНК? Сябры БНК?» Ст. Станкевіч нязьменна адказваў: «Камітэт займаўся абаронай беларусаў ад немцаў, хадайнічаў за беларусаў, каторыя былі рэпрэсаваныя нямецкімі ўладамі. Сяброў БНК ня ведаю, на сходкі не хадзіў, цэлымі днямі працаваў у кнігарні».

Чытаючы падобныя адзін да аднаго, няхітрыя й кароткія пратаколы, мы зь Яраславам стараліся зразумець, каторы зь іх быў найцяжэйшы, калі катавалі ды зьдзекваліся так, што зламалі рэбры?

16 лютага 1946 г. было складзенае «Обвинительное заключение»: «Следствием установлено: В 1942 году Станкевич Станислав, будучи враждебно настроенным против Советской власти, добровольно вступил в БНК и, являясь председателем этого комитета, проводил систематические сборища в здании комитета, где призывал участников комитета на борьбу против Красной Армии, для чего требовал производить новые вербовки для передачи добровольцев в немецкую армию в части СС. Станкевич изобличается показаниями обвиняемого Юревича и очной ставкой». З усіх «сьведчаньняў» Юрэвіча праўдзівымі былі толькі ягоныя зьвесткі пра йснаваньне БНК, усё астатняе было сфабрыкаванае самімі сьледчымі. Мабыць таму Я. Багдановіч, М. Пецюкевіч ды інш. былі арыштаваныя толькі 6 гадоў пазьней, калі махавік кадэбоўскай «сячкарні» раскруціўся па-сапраўднаму.

Ваенны Трыбунал Войск НКУС Літоўскай ССР праз нястачу наяўных доказаў адаслаў справу пракурору на дасьледаваньне, рэкамэндуючы дапытаць сьведкаў: Гаршву Ўладаса, Станкевіча Браніслава з рэдакцыі «Советская Литва» й «Цеса», Жогаса Пятраса, Станкевіча Адама Вікеньцевіча. Яшчэ тры месяцы «мучыліся» сьледчыя з абвінавачаньнем Станкевіча ды, нічога новага не знайшоўшы й ня «выбіўшы», зноў накіравалі справу ў

суд. 14 траўня 1946 г. прысуд нарэшце быў вынесены: здрада радзімы, артыкул 58-І «а». Суд пазбавіў Ст. Станкевіча вольнасьці на 10 гадоў плюс паражэньне ў правох на 5 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці.

У чэрвені 1946 г. маёмасьць канфіскавалі — хатнюю й кнігарні. А 13 лістапада 1956 г., калі Станіслаў Станкевіч ужо 2 гады як быў на свабодзе, Ваенная пракуратура склала такі дакумант: «По мнению военного прокурора округа показания осуждённого Юревича не могут быть положены в основу обвинения Станкевича, поскольку указанные Юревичем факты Станкевич отрицает, а других каких-либо доказательств его виновности предварительным и судебным следствием не установлено. Обвинение Станкевича и Юревича в том, что они проводили изменническую работу до ареста, т. е. до 1945 г., никакими доказательствами не обосновано. Этот пункт обвинения им предъявлен вовсе не был и судом не исследовался».

Суворыя выпрабаваньні выпалі на долю майго бацькі Станіслава Станкевіча. Драматычныя падзеі мінулых гадоў закранулі яго вельмі балюча. Не асягнуў ён вяршыняў навукі, пра якія марыў, не адыгрываў кіраўнічай ролі ў бурлівым беларускім жыцьці першай паловы ХХ ст., ня стаўся славутым паэтам. Але сваё жыцьцё й дзейнасьць назаўжды зьвязаў зь лёсам каханай Радзімы, за незалежнасьць каторай змагаўся ўсё жыцьцё, і за якую адпакутваў дзевяць доўгіх гадоў у сталінскім ГУЛАГу.



# МНЕ НЕ ЗАБЫЦЦІ...

выбраныя вершы
Станіслава Станкевіча



## ДА ПРАЦЫ

Да працы усе грамадою
Мы пойдзем, браточкі, хутчэй,
Бо трэба растацца з бядою,
Каб боляй ня знацца ўжо з ей.

Прыступім адважна да дзела,
Пачнём Беларусь будаваць:
Усе, як адзін, дружна, сьмела
Да працы павінны мы стаць!

За Мацъ-Беларусь, за свабоду
Паруліцца трэба усім,
Хто долі жадае Народу:
Братом-беларусам сваім!

Ад сну прабудзіцца нам трэба
Ды вочы працёрці пара,
І глянуць на яснае неба —
Ўжо сьвеціць нам волі зара.

Настаў час з пагардай растацца,
Ня станем больш горкіх сьлёз ліць,
І наша ня згіне стараньне —
Мы долю патрапім здабыць.
*1919 г.*

## РОДНАЯ ВЁСКА

Паміж гораў адзінокай
Сумна паглядае
У лагчыне, у шырокай,
Вёсачка малая.

Паміж рэчак ля дарогі
Раскінулісь хаткі,
Стрэхі, як кажух убогі,
Іх пакрылі латкі.

Тут вакол гарыста поле,
Сенажаці ў грудзе,
І заўсёды тут нядоля
З хаты ў хату блудзе.

Яе ўсюды тут даволі
Можна напаткаці,
Але волі, лепшай долі
Дасюль ня відаці.

Дзе дагэтуль так марудзіць,
Вестак мы ня маем,
А да нас калі прыблудзіць,
Ўжо зусім ня знаем.
*1919 г.*

## МНЕ НЕ ЗАБЫЦЦІ

Мне не забыцці Край і вёску,
Дзе я радзіўся, падрастаў,
І той загон, тую палоску,
Дзе быдла пасьвіць я ганяў.

І тую ў грудах сенажатку,
Дзе ўсходам сонца я касіў,

Як памагаў свайму я татку,
Дзе першы пот я свой праліў.

І гэны лес, дзе раз ня мала
Я на начлезе пабываў,
Агню наклаўшы там, бывала,
Я песьні родныя пяяў.

А як прыемна там у полі
Загончык гладзенька ўзараць,
І ўжо, як змучысься даволі,
На сонцы трохі паляжаць.

Мне дораг Край, куточак родны,
Хоць гора многа там спаткаў,
Хоць доўга мучыў лёс нягодны,
І дзён там лепшых не дазнаў.

Дагэтуль помню пару тую,
Як гора дома пакідаў,
І у старонку я чужую
Шукаці долі ад'яжджаў.

І хоць у тэй чужой старонцы
Я шчасьце лепшае знайшоў,
А ў Беларусь такі бяз конца
Мне захацелася ізноў.

І скора, думаю, дажддуся,
Што прыйдзе ўрэшце гэты час,
Хоць жыць тут лепей, а вярнуся,
Загоны родныя, да вас.
*1919 г.?*

## З НОВЫМ ГОДАМ

Ізноў, Новы Годзе, да нас ты ідзеш,
Цікава ўжо вельмі, што нам прынясеш...

Ці жудкія зьдзекі нясе Твой прыход,
Ці воляй нарэшце пацешыш Народ!

Дасюль не адзін Новы Год прыбываў,
Аб нашай нядолі нічога не дбаў,
Не даўшы нічога, адходзіў ад нас,
І так паўтаралась бяз ліку сто раз.

Нарэшце ўжо лепшым да нас прыбывай
І лепшаю доляй наш Край абсявай,
Няхай-жа загляне час лепшы з табой,
Каб воля рунела (...) гарой.

Надзеяў не мала снуе наш Народ,
Што прыйдзе шчасьліўшы да нас Новы Год,
У кожнай-жа хаце засядзе на кут,
Прагоніць няволю ды панскі хамут.
*1919 г.*

## ГОДЗІ

Годзі ўжо цярпець нам ціха
І пакорна сьпіну гнуць!
Трэ пазбыцца і нам ліха,
Каб вальней маглі ўздыхнуць!

Хай бацькі цярпелі гора
І згіналісь да зямлі,
Пралілі тут поту мора
І на вечнасьць так пайшлі.

Мы ня хочам, нам даволі
Гнуцца, плакаць, бедаваць!
І мы хочам лепшай долі,
Каб так век не гараваць!

Ну, дык годзі сьлёзы ліці —
Ярмо вечна так цягнуць,
Мы так сама хочам жыці,
Як і людзі ўсе жывуць!

І мы тут ня хочам раю,
Адно горкіх сьлёз ня ліць,
Ды каб кожны ў нашым Краю
Мог заўсёды вольна жыць!
*1921 г.*

## ЖАДАНЬНЕ

Я больш не хацеў бы, здаецца, нічога,
Каб мог прыдбаці навукі хоць нямнога.
Прыгэтым хоць трохі, каб лепшае долі,
Здароўя, вядома, хацеў бы найболяй.

Хоць чорнага хлеба што дзень мець кусочак,
Сваю мець хатку і поля шнурочак,
І хоць-бы якія свае мець боты
Ў пагоду сырую хадзіць да работы.

Бяз вопраткі жыці таксама ёсьць цяжка,
Дык хацеў-бы я мець кашулю з сярмяжкай,
А грошы ў патрэбу, каб толькі ставала,
На затаўку мець хоць кусочак сала.

Пазнацца нарэшце з такою дзяўчынай,
Каб быць магла жонкай, прытым гаспадыняй,
Няхай-бы была-бы з сямейкі мужыцкай,
Абы не чуралась Краіны Крывіцкай.

Зусім не хацеў-бы яе я багацьця,
Вось толькі каб мець прыяцеля ў хаце,
Каб шчасьце і гора дзяліці з кім меў-бы...
І болей нічога зусім не хацеў-бы.
*1922 г.*

## НЕ БЯДУЙМА

Не бядуйма аніколі,
Што жывём мы у нядолі,

Бо з ёй скора растанёмся,
Лепшай долі ўсё-ж даб'ёмся.

Хоць чакаць ня вельмі гожа,
Бедаваньне-ж не паможа!

Мусім жыці, як жывецца,
Бо што зробіш? дзе падзецца!?

Вось пакуль што пагаруем,
Пакуль Беларусь збудуем,

Аж пакуль ня будзем самі
Ў Краю мы гаспадарамі.

А тады ўжо зьдзек мінецца,
І лёс іншы усьміхнецца

Нам. Засьвеціць міла сонца
Ўжо па ўсёй нашай старонцы.

Ўсіх пацешыць нас вакола,
І мы жыць пачнём вясёла.
*1923 г.*

## ДА БЕЛАРУСІ

Беларусь, жыла й жыць будзеш! —
То дарма, што вораг страша,
Бо дасюль, дзе не заблудзіш,
Жыве ўсюды мова наша.

А пакуль жыве ў нас мова,
Не загіне край наш родны,
І мы жыць пачнём на нова,
Зноў, як некалі, свабодна!

Бо нам доля, Беларусы,
Верце, так-жа усьміхнецца,
Згінуць зьдзекі і прымусы
І нядоля ўся мінецца!

Нам засьвеце міла сонца,
Закрасуе наша ніва;
І тады ў сваёй старонцы
Зажывём усе шчасьліва!

*1923 г.*

## ПЕРАД СЬВІТАНЬНЕМ

Ноч мінае, дзень надходзіць
Дзіўнасьветлаю зарой,
Мы старонку асвабодзім
Собскаю сваёй рукой.

На зямлі, крывёю зьлітай,
Дзе прайшло шмат страшных бур,
Дзе ўсё зьнішчана-разьбіта,
Мы пастроім новы мур.

Жыці зноў пачнем шчасьліва,
Як дзікіх не стане мук,
І над нашай роднай нівай
Змагароў паўстане дух.

Плыці будзе над старонкай,
Дзе так многа курганоў,
І сваім вось імем звонкім
Будзе цешыць шмат гадоў.

*1924 г.*

## ЖНІВО

Грэе сонца... Добра ў полі...
Ветрык плаўна вее.
Жытцо з кожным днём паволі
Ўсё больш палавее.

Наліло ўжо як патрэба,
Цяпер трэ чакаці
Вось пагоды толькі з неба —
Пачне дасьпяваці.

Хутка жнейкі ўсе на поле
З сярпом пойдуць жаці,
Жытцо новае із поля
Дамоў сабіраці.

Гаспадар каня заложа,
Барджэй вазіць будзе,
Бо ні каліўца ён збожжа
Ня мае ў гарудзе.

Хлеба ўжо з вясны ня мае,
Як зацьвілі кветкі,
Даўно сам яго чакае,
А найболей — дзеткі.
*1924 г*

* * *

Як зорка, што ў небе гуляе
І міла з-за хмарак мігне,
Як пэрла, як кветка жывая,
Так міла заўсёды ты мне!

І хоць ад мяне ты далёка,
Цябе не забуду, ой не!

Бо вельмі ўжо памяць глыбока
Запаўшы у сэрцы на дне.

Цябе дзень і ноч спамінаю,
І бачу заўсёды у сьне,
І толькі усьцяж я чакаю,
Калі ашчасьлівіш мяне?!

Калі ўжо маё летуценьне
Ўспакоіш нарэшце зусім,
Разгоніш нуду і цярпеньне,
Што ные у сэрцы маім.
*1924 г.*

## З НОВЫМ ГОДАМ!

«З новым Годам!», «З лепшай доляй!» —
Чуем гэта мы штогод:
«Каб з нядоляй і з няволяй
Больш ня знаўся наш народ!»

Год за годам так праходзе,
Чуем словы гэты ўсьцяж;
А нядоля між нас бродзе
І, як калісь, мучыць нас.

Не дае дыхнуць свабодна
Хоць хвілінку, хоць-бы раз...
І так церпім мы штогодна,
І так мучымся ўвесь час!

Ды, урэшце, Новы Годзе,
Хоць раз н о в ы м к нам прыдзі,
І у нашым ўжо народзе
Шчасьце, волю завядзі!
*1924 г.*

## ЗА ВОЛЮ

Гэй! за волю ўсе змагацца,
Страсяніце вечны сон!
Годзі ў цемры так снавацца
І цярпець адно — прыгон!

Трэба брацца ўсім за дзела,
Рукі склаўшы не сядзець,
Бо, сапраўды-ж, надаела
Век нядолю ўсё цярпець!

Хоць паціху, хоць паволі —
Да работы трэба стаць,
Бо гадамі аніколі
Ня трэ часу марнаваць.

Дык хутчэй! хутчэй! бо днее,
Ўжо ўзышла даўно зара,
Хай больш спаць ніхто ня сьмее,
Бо да працы ёсьць пара.

Трэба сілу нам і згоду
Ўсяму сьвету паказаць,
І што зможам за свабоду
Сваю шчыра пастаяць.

*1925 г.*

## ДАВОЛІ!

Даволі! Ня трэба нам больш сумаваці
І горкія сьлёзы ўсё ліці,
А лепей у згодзе пачнём працаваці,
Каб лепшую долю здабыці.

Бо нам не пазбыцца бяды тэй ніколі,
Пакуль будзем плакаць, стагнаці,
Тады дачакаем мы лепшае долі,
Як самі прыступім каваці.

Як молат усюды магутна зазвоне,
Што рэха вакол пранясецца, —
Тады ўжо і песьня на нашым загоне
Вясёла усюды пальецца.

І мучыць нядоля нас больш не пасьмее,
Пазбудземся ўсякіх прымусаў;
І вецер свабоды усюды павее
Пацешыць і нас, Беларусаў!

*1925 г.*

## У ЧАТЫРОХСОТЫЯ ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ (1525 — 1925)

Чатыры ўжо сотні гадоў праляцела,
Як наша старонка вучонага мела,
Што славай жыць будзе ягонае імя, —
А зваўся ён: доктар Францішак Скарына.

Быў з Полацка родам, у Вільню дастаўся,
Пасьля за навукай на Захад падаўся,
Ў Заходняй Эўропе ён шмат дзе вучыўся,
Але-ж Беларусі сваей не забыўся:

У Вільню вярнуцца ізноў пастараўся
І роднаму Краю душою аддаўся.
А быў у навуках вызволеных сільны;
Ён першы друкарню заклаў тут у Вільні

Ў тысяча пяцьсот дваццаць пятым годзе;
Ўжо чатыры сотні гадоў нам праходзе.
І сяньня сьвяткуем мы ціха, бяз гуку
Юбілей вялікі — бо-ж роднага друку!

Дык памяць Скарыны будзем шанаваці,
Бо ён пачаў першы кніжкі друкаваці,
І многія ў гэтым яму памагалі,
Бо ўсе тады мову родну паважалі.

Была наша мова тады ў кожнай хаце,
Дарагі скарб гэты нашага багацьця.
Мы ўсе цяпер ёю павінны гардзіцца
І прошлай пашаны для яе дабіцца.
*1925 г.*

## ЖЫТА

Прыемна быць летам у полі,
Гдзе жыта як мора стаіць,
І ў гэтым шырокім раздольлі
Чуць-чуць каласкамі шапціць.

А вецер у гэным прасторы
Хай толькі павея чуць-чуць —
Па жыце, як быццам па моры,
Здаецца, што хвалі плывуць.

Паволі, кудысьці далёка
Памкнуцца адна за другой
І нікнуць нарэшце із вока,
Здаецца, там гдзесь за гарой.
1926 г.

## НЕ ПАКІНЕМ...

Не пакінем зямельку і Краю,
Дзе калісь нашы продкі жылі,
Тых палёў, сенажацяў і гаю,
Дзе крывавы свой пот пралілі...

Ўсе да працы мы выйдземо з плугам,
Пачнём родную ніву гарачь,
І шырокі прастор саматугам
Буйным зернем вакол засяваць.

Каб усюды ў нас ніва рунела
І ў гару падрастала ўвесь час,
Каласамі буйнымі шумела
І збор добры давала для нас.

Каб забыці пра гора й нядолю,
На апеку ня станем чакаць!
Будзем самі каваць сабе долю
І культуру сваю пашыраць!

Каб загінуў змрок цемры панурьі,
Ўжо па ўсёй Беларусі у нас;
Сьветач роднае нашай культуры
Каб нам вечна сьвяціў і ня гас!

*1926 г.*

## АЛЕ-Ж Я ЧЫМ БУДУ СКРЫГАЦЬ?

Такі праўда, што з старымі ўсяго бывае;
Прышла з цэрквы раз бабуля й плача як малая.
— Што? чаго вы? хто вас скрыўдзіў?» — сталі ўсе пытацца,
А тут баба дык ад жалю ня можа стрымацца;
Ды ня жартам, а сапраўды: як боб сыпіць сьлёзы,
Ці як шышкі вось вясною з вярбы, ці з бярозы.
Так расплакалась, ня можа аніяк стрымацца;
Але-ж бедную ўспакоіць сталі ўсе старацца.
Навакола як-бы дзіва, бабку абступілі:
Гэны — тое, той — другое ўсё ёй гаварылі.
Дзівы розныя й здарэньні сталі талкаваці,
Абы толькі неяк з ёю гутарку зачаці.
І, нарэшце, баба неяк ўсё-ж прагаварыла:
— Ой, паверце, мае дзеткі, мне нішто ня міла!

— Ну! чаму? ды што такое? ці-ж нельга казаці?
І сапраўды стала бабка справы выясьняці.
На пачатак сьлязу з носу хвартухом згарнула;
Галаву крыху падняўшы, глыбока ўздыхнула.
Пачала казаць нарэшце, а ўсе сталі слухаць
Так уважна, што і вухам ніхто ня сьмеў рухаць:
— Вы ня чулі таго пэўна, седзячы у хаце,
Што сягоньня поп у цэркве пачаў нам казаці:
Будзе, кажа, вельмі кепска на тым сьвеце з намі,
Плач і енк, і ўсё такое, дый скрыгот зубамі!
— Ну, дык што? чаго-ж тут плакаць?! — сталі ўсе пытаці.
— Як, чаго? а чым-жа я там буду скрыгатаці?
Маладым то вам нічога: зубоў поўна губа,
Але-ж я чым буду скрыгаць — ніводнага зуба!!!
*(1926 г.)*

## РАСТЛУМАЧЫЎ!

Двух хлапцоў адкульсь з далёка
Ўзялі з вёскі у салдаты,
Іх ня бачыла шчэ вока
Анічога, акром хаты.

А тут раптам шмат дзіўнога
Бязупынна разглядаюць,
І не сьцямяць прост нічога,
Скуль дзівосы ўсе бываюць.

Тут цягнік ідзе, гукае,
Валіць пара з нейкіх дзюр,
А так скоранька шыбае,
Дый вагонаў цягне шнур.

Хлопцы з дзівам паглядзелі
І пачалі разважаць.
— Як то хаты паляцелі? —
Сымон Юрку стаў пытаць.

— Як? вядома, гоніць парай!
Няўжо-ж табе не відаць,
Як з-пад колаў валіць хмарай,
Вось таму і можа гнаць!

- Э, не знаеш ты нічога,
Бо ня то стаў гаварыць,
Ў лазьні бач як пару многа,
А на мейсцы ўсё стаіць!

А на гэта Юрка стаў
Бараніцца пакрысе:
— Колы, кажа, ты прыстаў,
Дык і лазьню панясе.

*(1926 г.)*

## НЕХТА — НЕЙКІ

Нехта нейкі — хто там знае —
Падышоў аднойч да Грышкі,
Й, шапку зняўшы, ўраз пытае:
«Як мне трапіць на Лукішкі?»

Грышка хутка адазваўся;
Разказаці стаў старацца,
Каб той болей не пытаўся
І адразу мог дастацца:

«Кабы, кажа, вам ня зьбіцца
І знайсьці «Лукішкі» гэты —
Трэ рэдактарам зрабіцца
Беларускае газэты!»

На канчатак так гавора:
«Нат тагды не аглянесься,
Як бяз клопату і скора
На «Лукішках» апынесься!»
*(1926 г.)*

## З МАЙГО ВАКОНЦА

З майго ваконца відаць нівы,
Вясёла краскамі сьмяюцца,
І бор зялёны, лес шумлівы,
Ды між узгоркаў рэкі ўюцца.

Прастору ўлева, ўправа многа,
Далёка цягнуцца лахчыны:
Па іх-жа сьцелецца дарога,
Ў далі віднеюць гор вяршыны.

А дзе ня глянеш — усё вёскі,
Іх выгляд сумны, не багаты,
Палі — дык з пядзі тры палоскі,
І густа, густа зьбіты хаты.

Народ снуецца, як мурашкі,
Працуе шчыра, як патрэба,
Ў аднэй кашулі, без сярмяжкі,
Аднак найбольш жывець бяз хлеба.

Ў бядзе, у клопаце, ў нядолі
Гаруе зраньня аж да ночы,
Але, нарэшце, хоць паволі
Ўжо праціраць пачаў ён вочы.

Ды грамадой да працы ўзяўся,
Ажно сапраўды глянуць міла,
І дружна, сьмела адазваўся,
Што ён Народ, што ён ёсьць сіла!

Ўжо сну цяжкога скінуў путы,
І лёс другі вакол сьмяецца.
Пасьля пагарды і пакуты
Ён жыці вольным спадзяецца.

*1927 г.*

## МАРОЗ

Чуць зіма пачне надходзіць,
Ўсьлед за ёй бяжыць мароз,
І зачне свой лад заводзіць,
Ўсіх шчыпаючы да сьлёз.

Дык стварэньне хоць якое
Гнецца, корчыцца прад ім,
Жартаў ён зусім ня строіць,
Дакучаючы ва ўсім.

А то часам завінецца,
Цьвёрда ўсё вакол скуець,
Із ракой не разьмінецца,
Мост агульны заснуець.

Заглядае ў хаты ўсюды,
Хоць ніхто і не прасіў,
І на шыбах зробіць цуды —
Хоць на выстаўку нясі!

Ці як возьмецца часамі
Шыбы моцна маразіць,
Дык хоць едзь па іх санямі,
Так сумея ўсё зрабіць.

І сваволіць так дуронцам
Часта доўгаю пару —
Аж пакуль з-за лесу сонца
Не падыймецца ў гару.

Ды касулькі залатые
З неба не пачне спускаць
Праз ваконцы так малые
Ўсюды стане заглядаць.

І тагды мароз абвяне,
Так не стане дакучаць,
І, як сонейка загляне,
Ён хутчэй пачне знікаць.

І пачне ўжо ўсё паволі
Уставаць з цяжкога сну,
З кожным днём так што-раз боляй
Адчуваці ўжо вясну.
*1927 г.*

## «АВАДНЮ»

Эй, ляці-ж ты, «Авадзень»,
Хай-жа сіл хапае,
Каб ляцець мог ноч і дзень
Ты па родным Краю!

І праз горы, цераз бор!
Шмат не разважаці,
І ляцець у кожны двор,
Быць ва ўсякай хаце!

Весялі усіх што дня,
Будзь усім пацехай,
Каб знаў кожны «Авадня»
І да сьлёз меў сьмеху!
*1927?*

## ГОДЗІ...

Годзі ўжо нам, хлопцы,
Будзе блазнаваці,
А хутчэй зьбірайцесь,
Йдзем машыраваці!

Нашую Старонку
Злыдні захапілі
І нашай свабодзе
Вельмі загразілі.

Трэба нам вайсковай
Муштры ўсё-ж вучыцца,
Каб мы ад няволі
Умелі бараніцца.

Бо ў няволі будуць
Чужыя вучыці,
А як не патрапіш —
Жорстка будуць біці!

*1927?*

## МЯЦЕЛІЦА

Сьнег дарогі замятая,
Вецер жудасна шуміць,
Хмары цёмныя ганяя,
Дробны сьнег вакол ляціць.

І адкуль ён там бярэцца,
Дробны-дробненькі, як пыл,
Проста хваляю нясецца,
Як-бы сотні тысяч сіл.

На граніцы не зважае,
Сьнег як стане той ганяць,
І часамі так бывае,
Што і сьвету ня відаць.

Хмары проста так таўкуцца,
Як сумысьля, над зямлёй,
І кудысьці ўсьцяж нясуцца
Так адна вось за другой.

І бягуць, усё мінаюць,
Поўна ўсюды тут і там,
І вуглы, ну, прост іграюць
Песьні жудкія вось нам.

Сьнег клубком усюды коціць,
Па падворку, па страсе,
Комін сьвішча і галосіць,
Што аж юшкаю трасе.
*1927?*

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Прышлося чуць нераз аб гэтым,
Што я раблю благі паход,
Бо ёсьць далёкі да паэтаў,
А толькі звыклы вершаплёт.

Што я пішу ўстарэлым стылям,
Якім пісалі прад вайной,
А вось цяпер пастанавілі,
Каб мець мудрэйшы ў вершы строй.

Але-ж і я ёсьць «прадваенны»,
І многа вершаў ёсьць з тых пор,
Хоць скажуць, што пісаў я дрэнна,
Ўсё-ж думаю даць ім прастор.

І не за славаю тэй гожай,
І не за імям тым «паэт» —
Мой цень і так памерці можа,
А той, без славы, прыйме сьвет.

Я не зьбіраю матэр'ялаў,
Каб на Парнас забраці іх,
Бо я стары, мне сіл замала,
Аб тым хачу чуць пра другіх.

Пішу я для вясковай масы,
Маё жаданьне даць штось ім,
Пісаць-жа для вышэйшых клясаў —
Зусім ня думаў я аб тым.

Бо мне найболяй вёска рупіць,
І пра яе стараюсь дбаць,
Галоў іх мудрасьцяй ня чмуціць,
А каб лягчэйшае штось даць.

Бо творы слаўныя паэтаў
Сталёвы вёсцы ёсьць гарэх,
І вёска з кніжак слаўных гэтых
Заўсёгды робіць дзіўны сьмех.

Я пра сябе казаць ня буду,
Мяне залічаць да тупых,
Але мудрэйшыя бяз труду
Зусім ня ўловяць сэнсу іх.

А што казаць пра вёску будзем,
Якая ў нас ідзе ў хвасьце?
Яшчэ шмат трэба памарудзіць,
Пакуль да нас вось падрасьце.

Дык трэба ім літэратуру
Прастую, лёгкую даваць,
Бо гэта не ў яе натуры
У творах моды ім шукаць.

Хоць модны верш ёсьць прыгажэйшы,
А цяміш штось цяжэй з яго,
Дык ён шмат меней цікавейшы
Для грамадзянства-жа ўсяго.

Мяне ня дзівіць, што часамі
Хтось кніжкі ў рукі не бярэць,

Бо хоць яе ён прачытае,
З яе ўсё-ж сэнсу ня ўгрызець.

Зусім, што праўда, не скажу я,
Каб добрых твораў нам ня мець,
Няхай-жа ўсё цьвіце, красуе
І без канца ў гару імкнець!

А я, зьвязаны з шэрай масай,
З якое выйшаў я вось сам,
Для тых шырокіх цёмных клясаў,
Што я змагу, то ўсё атдам.

Таптаць неварта ўсё-ж паэтаў,
Хоць недарослых, ці малых,
Бо без сьцябля ня будзе цьвету,
Ані разумных без дурных.

А вёска наша — ўся надзея,
Патрэбна з ёю зьвязь трымаць,
Перш трэба даць, што разумея,
Пасьля вось будзем выдумляць.

Бо ім даваць цяжкія рэчы,
Дык як-бы кій ў тым калясе,
Мы іх вось толькі абязьвечым
І пользы ўсё-ж не прынясе.

Дык творы розных вершаплётаў
Не раджу я кідаць за плот,
Яны бяз труду, без клапотаў
Дадуць вялікі нам прыплод!

*1927?*

## КАЛІ ПРОЙДЗЕ ЗІМА...

Калі пройдзе зіма —
Ўсё чакае наш брат,

Бо ў нас хлеба няма
Ўжо ад самых Каляд.

Ні аднэй пыліны!
Сталі пусты кругом,
І, Бог знае, як мы
Ўжо зіму пражывём?!..

Бо дастаць няма дзе!
Не вядома, як жыць?!
Бо, глянь! кожны ў бядзе
Чуць жывенькі сядзіць!

Ды йшчэ хаткі няма,
Трэ ў зямлянцы сядзець,
Увакруг ўсюды цьма,
Дзе ні станеш глядзець.

Нашы хаткі і ўсё
Змарнавалі вайной,
А цяпер трэ жыцьцё
Каратаці з бядой.

І вось дзеці ў куце
Чуць жывыя сядзяць,
У бядзе, у нудзе, —
Толькі вочы блішчаць!

Бо — вядома — ў зямлі,
.Як-бы тыя краты,
Эх! гаруем-жа мы,
Беларусы-браты!

Эх, вясна! ты скарэй
Ужо к нам прыбывай,
Нас, бяздольных, сагрэй
І пацеху нам дай!

*(1928 г.)*

## ЗІМА

Вельмі, вельмі дакучае
Ў нас халодная зіма,
А найгорш тады бывае,
Як палена дроў няма.

Яна ў хату гвалтам рвецца,
А за ей мароз усьлед,
І па свойму ўраз бярэцца
Гаспадарыць сівы дзед.

Шыбы ў вокнах так бяз меры
Можа ўміг замаразіць,
А пасьля, бы на паперы,
Пачне ўзоры вывадзіць.

Яму сум, ні крык ня шкодзіць,
Ніхто з толку не саб'ець —
Па-мастацку так устроіць,
Ажно міла паглядзець.

Ніхто яго не стрымае,
Бура й вецер не зьмяце,
А ўсяго вось уступае
Аднэй толькі цеплаце.
*(1928 г.)*

## ПРАЛЕСКА

Шмат дзе пакрыта сьнегам зямліца;
Мароз таксама не забывае;
Усюды зімовым сном сьпіць травіца,
А глянь! пралеска ўжо аджывае!

На тонкай ножцы ў гару імкнецца,
Як-бы ніякай бяды не знае,
І цёплы ветрык ледзь маханецца,
Пралеска ўсюды ўраз зацьвітае.

І, дзе ні глянеш, дробненькіх вочкаў
Міла, прыгожа ўсюды мігаюць
Паміж зялёных сваіх лісточкаў.
Вясны пацеху ўсім абвяшчаюць!..
*(1928 г.)*

## Я НЯ ЗНАЮ...

Я ня знаю, як пражыці
Гэтую часіну,
Бо ня ў сілах пазабыці
Кахану дзяўчыну!

Яе шчыра так кахаю,
Сябе мучу толькі,
І надзеі ўсё-ж ня маю
Ніякай, нікольні!

Ці калі-нібудзь настане
Радасьці хвіліна,
Што прыветным вокам гляне
На мяне дзяўчына?!

Што мяне ўсё-ж прыласкае,
Да сэрца прыцісьне,
Ці калі хвіліна тая
Сьветлай зоркай блісьне?!

Ды ніхто хіба ня знае,
Калі прычакаю,
Што мяне так пакахае,
Як яе кахаю.
*(1928 г.)*

## ДА ДЗЯЎЧЫНЫ

Вось дзяўчына, дык дзяўчынка!
Ёсьць на што ўсё-ж паглядзець!
Проста ягадка! малінка!
А як стройненька ідзець!

Станік — зграбненькі і роўны,
Грудзі — міла пазіраць!
А пагляд — такі чароўны,
Што ня змог-бы разказаць!

Тварык, гэта — ружы кветкі,
Раўнамерны і насок;
І прыгожы яе гэткі
Мілагучны галасок!

Калі песяньку зацягне —
Заварожыць хоць каго!
І ўжо не адзін прысягне,
Што паслухаць ёсьць чаго!

А як толькі засьмяецца
Ды вачыма правядзе —
Ў душы радасьць адазвецца
І забудзеш аб бядзе!

Адно — бедна! мо й бяз долі?!
Але што аб тым судзіць!
Бо яе ўжо ніколі
Не змагу, мусі, забыць!

*(1928 г.)*

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

Ну, бывай здарова, кахана дзяўчына!
Я мушу сягоньня з табою растацца,

Бо, бачыш, пазвала нас Маці-Айчына
За праўду, за волю, за шчасьце змагацца!

Я-ж верны Айчыне, на час пасьпяшаю,
Хоць там, можа, згіну, дамоў ці вярнуся,
Дык вер, што так моцна я край свой кахаю,
Што па век я не здраджу сваёй Беларусі!

А хоць ад'яжджаю, ты ня траць надзеі,
Як кахаў — кахаю і ўжо не забуду!
А як пераможам вайны ўсе падзеі,
Дамоў-жа са славай варочацца буду!

І тады таксама зноў зможам спаткацца,
Як толькі я ў хатку родную вярнуся —
Цябе ўжо ня здраджу! Можаш спадзявацца!
Вярнуўшыся пэўна з табой ажанюся!
*(1928 г.)*

## ЎЮЦЦА ДУМКІ...

Ўюцца думкі! іх складаю
Вершам на паперы,
І канца у іх ня знаю —
Ўсьцяж плывуць бяз меры.

Гэтак з горам і з нудою
Увесь час снуюцца
І паволі, чарадою,
На свабоду рвуцца.

Так ад раньня да зьмярканьня
Тонам тым маркотным
Ўсё снуецца сумаваньне
Аб жыцьці гаротным.

І нельга яго стрымаці,
Сэрца ные з болю —

Толькі мусіш наракаці
На горкую долю.

Нат ня раз ужо я браўся
Іншы тон заводзіць —
Але колькі не стараўся,
Ўсё нядоля шкодзіць!

*(1928 г.)*

## У ЗАКРЭЦЕ

Эх, прыемна па Закрэце
Ў дзень сьвяточны прагуляцца,
Бо нікому не ў сакрэце,
Як там міла паўглядацца.

Гдзе народу цьма гуляець,
Ўзад ды ўперад спацыруе,
Там зноў музыка іграець,
Моладзь весела танцуе.

А музыка, як вядзецца,
Раз, другі смыком як хваце —
Ажно думка апынецца
Ў сваёй вёсцы ў роднай хаце.

Тады ўспомніш, як бывала,
На нядолю не зважалі,
Хаця гора прыціскала,
Юрку весела гулялі.

Ці у будні дзень, ці ў сьвята,
Толькі моладзь сабярэцца —
Чуць трывае толькі хата,
Ажно вёска ўся трасецца!

*(1928 г.)*

## ЗДАРЭНЬНЕ

На вакзале пры буфеце
Паны за сталом паселі
І, як быдто на банкеце,
Ў кампаніі пілі, елі.

А з канца, на беражочку,
Селянін адзін сядае
І хлеб з торбы, па кусочку,
Сабе з смакам заядае.

Аж тут, трохі пачакаўшы,
Якісь пан яшчэ ўваходзе,
Стаў, гарбаты шклянку ўзяўшы,
З мужыка вачэй ня зводзе.

Думаў, што мужык, як гляне,
Перастане пэўна есьці,
Зараз з мейсца свайго ўстане
Ды яго вось пусьце сесьці.

А мужык сабе на пана
Ані трохі не зважае,
Ён і далей гэтак сама
Адно ў торбу заглядае.

Ўрэшце пан із мінай злою
У ва ўсіх нібы пытае:
«Паміж мужыком з сьвінёю
Ці ёсьць розьніца якая?

І з паноў ніхто нічога,
Увакола — ціш нямая,
А мужык, не ждаўшы многа,
Аб'ясьняць ім пачынае.

Маслам хлеб сабе ён мажа,
На ўсіх сабе паглядзеўшы:
«Сьвіньня с т о ю ч ы есьць, кажа,
А мужык заўседы, с е ў ш ы».
*(1928 г.)*

## ЖАДАНЬНЕ

Я ня думаю аб гэтым,
Каб я стацца мог паэтам,
Толькі мкнуся пры часіне
Сплесьці верш сваёй Краіне.

Дык хацеў-бы, каб заўсёгды
Мог пісаць усьцяж свабодна:
Бо, ці летам, ці зімою,
Думкі не даюць пакою.

Ў галаве мне ўсьцяж снуюцца,
І на вонкі сільна рвуцца,
Каб аб долі нашай шэрай
Выкладаць мог на паперы.

Каб нігдзе не растрасьліся
І на памяць засталіся,
Лепшае пары дажыцца,
З Краем родным падзяліцца.

Дачакаць канца ўсім мукам
І пусьціць асобным друкам,
Каб дажыцца лепшай долі
І не знацца ўжо з няволяй.
*1928 г.*

## ВЕЧАР

Як толькі ўвесь заход зальецць зарою,
Шырэй займаці стане небасхіл,

Прыемна вельмі гэнаю парою
Калі вакол пачне глядзеці сінь.

І вырастаць над сонцам stануць косы,
Якія хутка stануць зноў зьнікаць,
Ня stане хутка яркіх тых палосаў,
Адно тагды ўжо ночы трэ чакаць.

Як-бы пацягне холад па зямельцы,
Пачне з зямлі расічка выступаць,
І, як вадою гэнаю крынічнай
Ці траў брылянтамі, ўсё ахапляць.

Мільёны пацерак, вось гдзе не глянеш,
Здаецца, ўвесь заліты імі сьвет,
А чуць кранеш гдзе іх — зараз не stане,
І астаецца толькі ўлажны сьлед.

*1930 г.*

## ЦЭНЗАР

Што ў думках маю — трэ прызнацца —
Я не магу таго пісаць,
Я мушу цэнзара баяцца,
Бо ўсё ён можа скасаваць.

Што праўда, не яго баюся,
Але ягонага пяра,
Ды з кожнай думкаю ня рвуся,
Аж прыйдзе лепшая пара.

Яму я дагадзіць мяркую,
Бо што пачаць у той бядзе,
Як цэнзар працу дарагую
Чырвоным цьветам правядзе?

Я часта з думкамі нашуся,
Насіць іх буду свой мо век,

Але-ж ніколі не згаджуся
Пусьціць іх цэнзару на зьдзек!

І што рабіць, зусім не знаю,
Куды нарэшце іх падзець?!
Я лепш пары той пачакаю,
Як цэнзар сэрца будзе мець!

Я маю многа шчырай веры
Пары ўсё-ж лепшай дачакаць,
Свае ўсе думкі на паперы
Змагу свабодна апісаць.

Калі ня буду ўжо баяцца,
Ў цэнзуру даўшы прагглядаць,
Бо сам ён будзе пільнавацца,
Каб там чагосьць не змарнаваць.
..?

## НАДЗЕІ

Няраз часамі збудзіцца надзея,
Аж кроў бунтарна ў жылах забурліць,
Што ўсё-ж мінуцца жудасьці падзеі
І ўсенькі край наш стане вольна жыць!

Бо праўда возьме над няпраўдай сілу,
І ліха ўсё із Крывіі зьбяжыць,
Паміж так жуткіх курганоў, магілаў
Мы радасна ды вольна станем жыць!
..?

## НАДЗЕЯ

І я, як кожны, гэтаксама,
Калі прыйшоў на гэты сьвет,
Дык быў я ў вопратцы Адама
Ад галавы да ног адзет.

А сьвет пабачыўшы багатым,
Надзеіўся знайсьці ўсё тут,
Ды бачыць сонейка над хатай,
Што будзе грэць мой родны кут.

Аднак вялікі сьвет, шырокі,
Гдзе вельмі многа розных зьяў,
Мне ўсё-ж ён стаўся аднабокім,
Бо толькі горам трактаваў.

У сьвет пайсьці прышлося рана,
Што мне давала многа дум,
А перайшоўшы толькі ганак,
Спаткаў мяне агромны сум.

Мне жаль сваіх было сялібаў,
Яшчэ хацеў-бы іх таптаць
І ўсе памылкі ды пахібы
Свае хацелася спрастаць.
..?

## АБ ПРОШЛЫМ

Была пара, што наш Край родны
Быў ён краінаю свабоднай,
Зусім не знаў, што за няволя,
Народ увесь гардзіўся доляй.

Пара квітнела залатая,
Па ўсім агромным нашым краю,
Былі тагды гаспадарамі,
Суседзі ўсе лічыліся з намі.

Чужацкай не баяліся сілы,
Сягоньня ўспомніць час той міла,
Калі наш слаўны Край, бывала,
Уся Эўропа шанавала.

Бо Крыўя дык кутка ня мела,
Каб гдзе культура не грымела,
І красаваўся Край прыгожа,
Як той букет з пахучых рожаў.

..?

## МОЙ ЛЁС

Спаткаў на сьвеце лёс я дрэнны,
Хаця з сабою дар прынёс,
А дар багаты, ня штодзенны,
Ён разьвіваўся, як я рос.

Але ня меў зусім асновы,
Хоць мне магчымасьць вось ён даў,
Каб я, як краскі, думкі ў словы
Ў вянок паволі ўсё сплятаў.

А лёс іначай мне ўкладаўся,
Бо, толькі чуць крыху акрэп,
Паўсіратою я астаўся
І хутка ў сьвет пайшоў па хлеб.

І мусіў жыці адзінока,
Як без пары сарваны цьвет,
Ад роднай хаты быў далёка,
Яшчэ лёс даляй гнаў у сьвет.

І гэты дар, хоць драгацэнны,
Мяне ён часам турбаваў,
А лёс прытым ня быў сумленны —
Мне аглянуцца не даваў.

Да працы тэй нераз будзіўся,
Як, помню, быў яшчэ малым:
Пісаць я толькі што вучыўся,
Ў мяне выходзіла ўсё ў рым.

Хоць думкі часта мігацелі,
Перашкаджалі працаваць,
На волю рваліся, грухацелі,
Ды час ня мог ім волі даць.

Нераз у сьне, як-бы здаецца,
Пяро я ўзяўшы, вось пішу,
І думка ў словы ўся сальецца,
Спадае лёгкасьць на душу.

Як-бы на яве так часамі,
Здаецца, ўсё сьпяшу пісаць,
Выходзіць так усё радкамі,
Як з васількоў вянок сплятаць.

І цешусь я. Чаго? ня знаю!
Як-бы цяжар скідаю з плеч,
Здаецца, лёгка аддыхаю,
Як-бы сагнаў ўсю цяжасьць прэч.

Але сон пройдзе — прабуджуся,
Пачнеш тут вочы праціраць,
Сюды-туды я аглянуся —
Нігдзе нічога не відаць.

Тагды вось бачу, што ўсё гэта
Адзін быў толькі мілы сон,
Як-бы ў тэй песьні недапетай
У галаве незнаны звон.

..? Барэйск ?

## ЗАДУШНЫ ДЗЕНЬ

*Не памер, а нарадзіўся...*
*К. Сваяк*

Задушны Дзень ёсьць сумным сьвятам,
Для многіх ён наводзіць сум,

Што год магільнік гэтай датай
Зьбірае ён вялікі тлум.

Жадае кожны: родных, знаёмых
Хоць іх магілкі прывітаць,
У сьвет загробны, ў сьвет таёмны
Ад сьвечак хоць дымок паслаць.

Травой магілкі пазаросшы
Імкнецца кожны асьвяжыць,
Злучыцца думкаю з умёршым
Або сьлязой скрапіць крыжы.

І тут прыпомніць іх заслугі,
Што добрага людзям зрабіў,
Прызнаць пашану ўсім патугам
<..........................>.
?

## ВАСЕНЬНІ МАТЫЎ

Лета цёплае мінула, як ніўчым нічога,
Хутка ў прошласьць паляцела сваёю дарогай.

А за летам сьледам восянь сьмела ўсіх вітае
І паважна ды вакола свой пасад займае.

Не зважае нінакога, ці прасіў хто сесьці,
І стараецца адразу свой парадак весьці.

Дрэў лісточкі памалюе ўсе на жоўты колер
І пільнуецца заўсегды, каб трымаці гонар.

Ці як быццам загадае гнаці ветру хмары
І павіснуць вельмі густа ў паднебным абшары.

Вецер, гонячы так хмары, з дрэў лісты пазносіць,
Моцна часам загуляе, аж вуглы галосяць.

Вельмі дзіўна гаспадарыць з ветрам гэта восянь,
Часта шпіляк назрывае з ельніку ды сосен.

І, што праўда, часам вецяр аж застогне сумна,
Што яго лес не шманае, дзержучыся думна.

Ды вось з ветру пажартуе кожны сук касматы,
Бо сук ветру не баіцца ў вопрадцы багатай.

А вось толькі ён уважна мужыку гамоне,
Што ўжо восянь гаспадарыць увакол сягоньня.

Рызыкоўна так сьпявае, так ля кожнай хаты,
Што цяпер вось дачакалі ўсе пары багатай.

Ды на полі ўжо нікога праца ня трывожа,
І што ў хаце ўжо спакойня сядзець кожны можа.

Што цяпер у гаспадарцы кожны ёсьць багаты,
Як жаніх, каторы едзе рызыкоўна ў сваты.

Працу ўсенькую на полі восянь-жа спыняе,
Бо, як кінуць толькі вокам, пусткай выглядае.

І так з кожным днём паволі поля ўсё пусьцея,
Сонца ясная таксама без адвагі грэя.

...?

## ЗІМА

Праляцела ўрэшце восянь,
Цёмнай, нуднай, як турма,
А цяпер жуду наводзіць
Нам сярдзітая зіма.

Бо яна жартуе мала,
Зь ветрам як пачне гуляць

І з вакон, нібы з цымбалаў,
Многа тонаў здабываць.

Бо ў нас шыбы з кускоў розных,
Часта клеяных, малых,
Дык і тон даюць трывожны,
Ці то музыка, ці сьвіст.

А як вось мароз зпрабуе
Здольнасьць так-жа паказаць,
Вокны ў хаце замуруе,
Што аж сьвету ня відаць.

Ці часамі завінецца,
Сьнег сатрэ на дробны пыл,
Ды вятруга падкрадзецца
І пачне ганяць што сіл.

Жудка нават гэным часам
У дарозе пабываць,
Бо ён зноў без амбарасу
Дзьме, сячэ, як крапіва.

Хоць ня лезь нікуды з хаты,
Сьнегам як пачне круціць
Сваей сілаю заўзятай,
Што ў вачах ажно трымціць.

Дык пакуль зіма бушуе,
Вядзе парадак свой яна —
Ўсё жывое пагаруе,
Пакуль да нас прыйдзе вясна.
..?

## ЛЮБЛЮ

Люблю свой Край і тую мову,
Што так была калісьці слаўнай,
Калі была вакол асновай —
За князя нашага Ўсяслава.

Як ад Балтыцкага вось мора
Да Чорнага вакол грымела,
Але спаткалася із горам,
Тагды пачулася самлелай.

Мне гэны словы дарагія,
Што чуў малым яшчэ ў калысцы,
І песьні ўсе, што чуў тагды я,
Душы маёй ёсьць вельмі блізкі.

Што праўда, я на белым сьвеце
Ужо пражыў гадоў нямала,
Тых зыкаў слухаў-бы сталецьця —
І прыкрымі зусім не сталі-б.

Як хтосьць тэй мовай прагавора,
Прыемнасьць нейкую адчуеш,
Хоць-бы, здаецца, быў-бы хворым,
Мацней сябе як-бы пачуеш.
..?

# М...

Хутка ўжо ў гімназію ты пойдзеш,
Што для ўсіх ёсьць сёньня абавязкам,
Бо як шляху хто таго ня пройдзе,
То на сьвеце будзе жыці цяжка.

На жыцьцё глядзець вучыся слушна,
І старайся маме быць няўпартай,
Дома, ў школе — заўсягды паслушнай
Ды з усімі ветлівай быць варта.

Вось пакуль што слоў табе тых хваціць,
Толькі іх прыймі да сэрца шчыра,
Будуць цешыцца з цябе у хаце,
І, напэўна, ў людзях будзеш мілай.

*1944 г.*

## (О, МАЦІ БОГА, МІЛАСЬЦІВА...)

О, Маці Бога, міласьціва,
Ўзгляні на наш гаротны Край,
Будзь нам заўсёды дабратлівай,
Загінуць марна нам не дай!

Ты вызваль нас з цяжкой нядолі,
Ад нас няшчасьці адвярні,
Магутнаю сваею воляй
Ў нас зьдзек тэй жудкі зкарані.

І разлучы нас з зьдзекам-горам,
Якое цягам мучыць нас,
Каб у шырокім тым прасторы
Другі пабачылі абраз.

Ты Маці ёсьць над цэлым сьветам,
Дык заступіся Ты за нас,
Дай сілы нам дайсьці да мэты,
Пашлі хутчэй нам гэты час.

*1943 г.*

## ХУТКА

Заціхне хутка бура з завірухай,
І высахне разьлітых мора сьлёз,
Наш Край пакінуць жорсткія ўсе мукі,
І ветла нам пачне сьмяяцца лёс.

Зарою яснай нам усход засьвеціць,
Бязсьледна згіне жудасны прыгон,
Жыцьцё ўжо іншае пабачаць дзеці,
Бо згіне зьдзек, як той кашмарны сон.

Адно, што будуць тут па ўсёй Краіне,
Магілы з курганамі ўсё здраджаць,
Гдзе нашы змагары жыцьцё злажылі,
А іхны дух над намі ўсьцяж лунаць.

Імёны іх нам будуць жыць заўсёды,
Аб іх ніколі памяць не засьне,
Як помнік будзе нашая свабода,
Яны заўсёды будуць нам грымець.

*1944 г.*

## МАЯ АЙЧЫНА ДАРАГАЯ!

Мая Айчына ты дарагая!
Сколькі Ты зьнесла гора, пакуты,
Чужнік уладу меў над тым краем,
І засяваў нам ніву атрутай.

Вакол парадак жудкі сваволіў,
Бо ня лічуўся з нашым народам,
Хто ў выш імкнуўся лётам саколім,
Той быў пазбаўлян зусім свабоды.

Народ вякамі жыў ў тых варунках,
І ён няўпынна падаў ахвярай,
Свае хто часам зводзіў рахункі,
То Край бязьвінна зносіў удары.

З <...> сільных паходаў
Крыві ня мала ў Краі праліта,
Апекай боляй зробляна шкоды,
Бо ўсенькі край наш стаўся разьбіты.

*Бароўск*

## СУМ АБ ВОЛІ

Лягчэй было-бы гора мне зьнесьці,
Каб мог хоць ведаць, волю ці ўбачу,
Загіну, можа, марна нарэшце,
Ніхто аб гэтым і не адзнача.

А можа стацца нават і гэтак:
Сям'ю спаткаці можа лёс дрэнны,
І адарвуцца дзеці ад мэты...
Мірыцца цяжка з лёсам штодзенным.

Працуюць думкі часта над сілу,
Як-бы зблудзіўшы ў цёмнай гдзесь пушчы,
А час праходзіць нейкі пастылы,
Як-бы абвіты дротам калюшчым.

Настрой заўсёгды, як-бы быў хворым,
Ці як па моры ў буру плыў лодкай,
Ў вачох міхцяцца жудкіе ўзоры,
Што ўжо ня верыш ніякім плёткам.

І дні за днямі гэтак мінаюць,
Што ў іх ня бачыш іскры пацехі,
Чым даляй боляй жудкасьць праймае
І часта вабіць нават да грэху.

*Бароўск*

## ВІЛЬНЯ

О, Вільня, Вільня! нашым ёсьць сэрцам,
Ці жаралом тым быстрай крыніцы,
Жыцьцё із Вільні наша снуецца,
І па Краіне вакол бурліцца.

Расла ўся ў Вільні нашая слава,
Ўраджай вялікі для ўсіх давала,

Дык Вільня важнай вельмі ёсьць справай
Ці, лепш сказаці, нат — ідэалам.

Край захапляўся ейнай праявай
І клаў на Вільню многа надзеяў,
Што Вільня выйдзе герой на славу
І ўсім служыці далей сумея.

Ды вось нарэшце зьнікла ўсё гэта,
Цяпер нам Вільня стала чужою,
Пакуль асьветай ейнай адзеты,
Але пайшло ўсё ў прошласьць, як зноем.

У Вільні многіх гора спаткала,
Папала з Вільні многа за краты,
І летуценьні сталі правалам
І без ніякіх нават-жа датаў!

Мяне, як ліст той, з дрэва лёс кінуў,
Ў чужы, далёкі край мала знаны...
Пакінуў Вільню, сям'ю, краіну,
Зь якой быў вельмі моцна зьвязаны.

*Бароўск*

## ЖЫВУ ТАБОЮ

Жыву табою, родны мой Краю,
І разпаляю іскру надзеі,
Што ночка цёмнай век не бывае,
Дык, можа, ўбачыць Край свой здалею.

Хоць у апошніх можа хвілінах
Сваю я мару ўбачыць сямейку,
Тады змагу ўжо леч на спачынак
Пад пышным дрэвам: сасной ці елкай.

Пакорна зношу многа цярпеньня,
Маёй чуць сілы толькі хватае,

Усе згаджаюсь зносіць мучэньні —
Ўміраць на Ўрале ўсё-ж не жадаю.

Сіл колькі маю ўсё беражуся,
Адно часьценька падаю духам,
Ну, як успомню аб Беларусі,
Тагды лягчэйшай веея атухай.

Ізноў пачую сілу я волі,
З судзьбой мірыцца стану пакорна.
Па ўсенькім Краю думкай сваволю,
Гдзе краскі поля робяць узорным.

І днём, і ночай думка лунае,
Што ўсё-ж Айчыну мілую ўстрэчу,
Сям'ю і родных так-жа спаткаю,
Калі судзьба ў тым не запярэчыць.

*Бароўск*

## ЧУЖЫ КРАЙ

Жыву ў чужым я краю далёка,
Ня чую зыкаў гэных мне родных,
Гдзе чуюсь вельмі я адзінокім,
І лёс віную свой я нягодны.

Бо як учора, так і сягоньня
Пара ўсё-ж неяк сумна пляцецца,
І толькі сьняцца тые ўсё гоні,
З якімі зжыўся душой і сэрцам.

Не раз забыці нават хацеў-бы,
Но летуценьняў мне не стрымаці,
Туды на скрыдлах нават ляцеў-бы,
Але яшчэ вось мушу чакаці.

Губляў, што-праўда, часта надзею,
Але душа вось ныла гарача,

Ці гэта шчасьце ўрэшце сагрэя,
Што я сямейку бедную ўбачу.

А сум-жа цісьне ўсё што раз боляй,
Чаго не знаеш даляй чакаці,
Ці я спаткаю згубляну волю,
Хоць мне няўпынна аб ёй сны сьняцца.

*Бароўск*

## АПАЛІ РУКІ

Мае зусім апалі ўжо рукі,
Энэргіі ранейшай не стала,
Калісь сядзець за працай мог крукам,
Пры тым зь вялікім проста запалам.

Цяпер, як-бы і сам ўжо ня свой,
На будучнасьць згубіў зусім веру,
І стаў хварэці цяжка душой,
Бо сум гняце, не знаючы меры.

Ня бачу ў прышлым я палягчэньня,
Трывожных думак мне не пазбыцца,
Жыцьцё хранічным стала цярпеньнем,
Як-бы жыцьцёвай брак ёсьць крыніцы.

О, як хацеў-бы я скупянуці
Свае хоць нэрвы вольнай хвілінай,
Мае гдзе думкі цягам снуюцца —
Там, на абшары родней Айчыны!

*Бароўск*

## Г...

Цябе я шчыра ўсё-ж кахаю,
Ў душы запала ты маёй,
Душэўна ўсьцяж цябе вітаю
І ўсьмешкаю жыву тваёй.

Твой сумны ўзгляд мяне трывожыць,
А ўсьмешкі не магу забыць,
Чым мне каханьне толькі множыш,
Што думка за табой бяжыць.

Цябе забыць мне немагчыма,
Змушае лёс усьцяж кахаць,
Мне ўсьцяж стаіш перад вачыма
І як-бы голас твой чуваць.

Цябе я можа ці пабачу,
Мо шляхам я пайду другім,
Ва ўсім табе жадаю ўдачы,
Ня бачыць гора ані ў чым.

*Бароўск*

## ЭХ, ВОЛЯ, ВОЛЯ!

Эх, воля, воля! скарб ты бязцэнны,
Ня ўсім ты сьвеціш яснай зарніцай,
Бываеш многім вельмі ўжо дрэннай,
Другі табою цягам гардзіцца.

Цябе цаніці кожны ня ўмее,
Тым боляй жыў хто разам з табою,
А той ацэніць хто ўсьцяж з надзеяй
Спаткацца з воляй думкаю роіў.

Жадаў спаткацца толькі із ёю,
Сваіх не бачыў доўгі час ніваў
І лятуцеў хто толькі із [зноем],
Снаваў аб волі цягам матывы.

За воляй толькі мануўся з запалам,
Хоць праз балоты брыў-бы дзікія,
Здаецца, бег-бы так, як папала,
Хоць поўз-бы ракам, ці плёўся з кіям.

Цягам спаткацца мкнуўся з сям'ёю
Ды пазабыці жудкасьць няволі,
З другім пажыці ўрэшце настроям,
Хаця-б і ў лапцях, толькі з сям'ёю!

*Бароўск*

## ХУТКА

Цяжкія хутка раны загоім
І ўсё да рэшты зноў адбудуем,
І больш ня будзем панскім слугою
Там, гдзе народ сам Краем кіруе.

Наш Край нанова зноў закрасуе,
Як знаць ня будзем дзікай прынукі,

Яшчэ хоць многа мы пагаруем,
Але пацешым нашых унукаў.

Імёны помніць будзем іх вечна,
Жыцьцё якія ў нас збудавалі,
За наша шчасьце ставілі плечы,
Каб мы няволі боляй не зналі!

*Бароўск*

## ЯК ПАЗБЫЦЦА

Як тут пазбыцца гора, не знаю,
Што вельмі мучыць жудка пры гэтым,
Зусім спакою думкі ня маюць,
Бо ўсё чакаюць з волі прывету.

У сьне Край родны часта я бачу,
Даліны, горы, пушчы, вазёры,
А сэрца ные, нават аж плача,
Што так далёка родных прастораў,

Гдзе рэчкі ўюцца шнурам між гораў,
Як серабраннай гэнай істужкай,
А ў бляску водаў шмат разгавору —
Паслухаць міла тэй весялушкі.

Там лятуценьні днюяць, начуяць
Вясною, летам, хоць і зімою,
А я заўсягды толькі сумую,
Бо думкі ўюцца ўсьцяж з непакоем.

Старонку бачу часта я ў думках,
І ўсьцяж снуецца днём, як і ночай...
Я ўжо нарэшце высах, як струнка,
Як-бы дзяўчынка, замуж што хоча.

*Бароўск*

## (ВІТАЙ, МАРЫЯ БОЖАЯ МАЦІ...)

Вітай, Марыя Божая Маці,
Табе свае мы модлы заносім,
Пазволь шчасьліва век скаратаці,
Будзь нам пацехай, шчыра мы просім.

Ты будзь заўсёгды нашай апекай,
І днём, і ночай ў кожнай хвіліне,
Ратуй няшчасных, Маці, ад зьдзеку,
Твая хай ласка нас не пакіне.

Ты ёсьць адзінай нашай надзеяй
Ў бядзе і горы, ў горкай нядолі,
Ці вораг мучыць Край наш пасьмея,
Не забывай нас, Маці, ніколі.

Ты не пазволь нас кінуць на зьдзекі,
Якіе твораць страшные раны,
Пазволь пражыці вольна нам векі,
Каб больш ня мучыў лёс нас паганы!
*Бароўск*

## БУДУЧНАСЬЦЬ

На будучнасьць гляджу я з жахам,
А прошласьць навявае сум,
Мінула прошласьць прост з размаху,
Як той лясны мінае шум.

І боляй прошласьці ня ўбачыш,
Адно вось толькі можа ў сьне,
Зьнікаюць сілы ўсе астачы,
Навекі хутка дух засьне.

Пара настаці мусіць іншай,
Якая ўжо не за гарой,
Што зацьвіце, як тая вішня,
І многа ўбачыцца хто з ёй.

А на спамін таго чаканьня
Душа і сэрца аж баліць,
Што хутка гэты час настане —
На сьвеце я ня буду жыць.

*Бароўск.*



# Пасьляслоўе рэдактара

Па паэту Станіславу Станкевічу засталіся два невялічкія, друкаваныя лацінкай, зборнічкі «Smiech nia hrech: humarystycnyja wiersy» (Выданьне А. Яцыны, Вільня, 1926) і «Z majho wakonca» (Выданьне Я. Гапановіча, Вільня, 1928) ды сямнаццаць пажоўклых ад часу сшыткаў і асобных аркушаў з рукапісамі разнастайных жанрам і зьместам вершаваных твораў, каторыя захоўваюцца ў сямейным архіве Міраславы й Яраслава Станкевічаў. У сшытках і аркушах іх налічываецца недзе каля паўтары сотні. Пісаў Станіслаў Станкевіч алоўкам, таму напісанае даволі такі выцьвіла й часта «няўзброеным» вокам не прачытваецца. Аднак, зь іншага боку, мы амаль паўсюль маем справу з рукапісамі закончаных, «чыставых», без асаблівых аўтарскіх правак варыянтаў вершаў, што значна аблегчыла працу ў падрыхтоўцы да друку раней непублікаваных твораў паэта.

У «вершаваны дадатак» да ўспамінаў дачкі паэта Міраславы Русак увайшлі тры вершы са зборніка «Сьмех ня грэх»: «Але ж я чым буду скрыгаць?», «Растлумачыў», «Нехта-нейкі»; 16 вершаў са зборніка «З майго ваконца»: «Да працы», «Родная вёска», «Мне не забыці», «Не бядуйма», «Да Беларусі», «Жніво», «* * *», «З Новым Годам!», «За волю», «Даволі», У чатырохсотыя ўгодкі беларускага друку (1525 — 1925)», «Не пакінем», «Калі пройдзе зіма», «Зіма», «Пралеска», «Я ня знаю», «Да дзяўчыны», «Разьвітаньне», «Ўюцца думкі», «У Закрэце», «Здарэньне; астатнія творы ўзятыя з рукапісаў. Паўсюль, за рэдкім выключэньнем, захаваныя лексычныя, фанэтычныя ды арфаграфічныя асаблівасьці арыгіналаў.

Укладаўся «дадатак» паводле храналёгіі напісаньня вершаў, хаця ўстанавіць час іхняга напісаньня ўдавалася не заўсёды, і тады вершы ставіліся на сваё прыблізнае мейсца. Пытальнікамі пазначаныя неўстаноўленыя або прыблізныя даты напісаньня вершаў. Даты, узятыя ў дужкі, азначаюць, што верш датаваны годам выданьня яго ў зборніку.

Безумоўна, у асобе Станіслава Станкевіча мы маем яшчэ аднаго заходнебеларускага паэта, творчасьць якога ў свойчас была недастаткова ацэненая, а потым на доўгія гады несправядліва забытая. Спадзяемся, што выхад кнігі Міраславы Русак «Лявонава доля» дапаможа ўваскрашэньню імя Станіслава Станкевіча ня толькі, як кнігара ды асьветніка, а як і самабытнага паэта. Выказваем гэтаксама спадзяваньне, што нашыя айчынныя літаратуразнаўцы па-сапраўднаму, нарэшце, зацікавяцца творчай спадчынаю паэта й ягоныя творы зоймуць сваё пачэснае мейсца ў зборніках беларускай паэзіі, школьных хрэстаматыях, а, можа стацца, выйдуць асобнымі кніжкамі.

*Алег Мінкін*

# Зьмест

Станіслаў Станкевіч (1886 -- 1964) быў ведамы ў Вільні міжваеннага пэрыяду, як уласьнік беларускай кнігарні, кнігавыдаўца, асьветнік, паэт. Выдаў два прыжыцьцёвыя зборнікі паэзіі "Сьмех ня грэх" (1926) і "З майго ваконца" (1928). Але большасьць з ацалелых вершаў С. Станкевіча захавалася ў ракапісах, у сямейным архіве ягоных дзяцей Міраславы Русак і Яраслава Станкевіча. Кніга складаецца з успамінаў Міраславы Русак пра жыцьцёвы й творчы лёс "Кнігара" (так С. Станкевіч быў празваны ў асяродзьдзі віленскай беларускай інтэлігенцыі) ды зь вершаванага дадатку, у які пераважна ўвайшлі рукапісныя, нідзе раней недрукаваныя творы паэта.

ISBN 9955-427-05-1